# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 12 (734) ГОД XV БЕЛАСТОК 22 САКАВІКА 1970 г. ЦАНА 60 гр.


## СУСТРЭЧА З ПРАДСТАЎНІКАМІ КІРАЎНІЦТВА БЕЛАСТОЦКІХ СЯРЭДНІХ ШКОЛ

19 лютага адбылася сустрэча кіраўніцтва Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства з прадстаўнікамі кіраўніцтва сярэдніх школ горада Беластока, прысвечаная пытанням дзейнасці БГКТ у вучнёўскім асяроддзі.

З падрабязнай інфармацыяй аб магчымасцях Таварыства і мэтах ягонай дзейнасці выступіў сакратар Галоўнага праўлення БГКТ Янка Зенюк.

Выступаючыя ў дыскусіі прадстаўнікі кіраўніцтва школ падкрэслівалі патрэбнасць дзейнасці БГКТ у вучнёўскім асяроддзі. Неабходна зацікавіць беларускай культурай вучняў не толькі з беларускіх асяроддзяў, але таксама і з польскіх.

Галоўнымі формамі дзейнасці БГКТ у вучнёўскім асяроддзі сярэдніх школ горада Беластока павінны стаць культурна-асветныя вечарыны, сустрэчы з цікавымі людзьмі, сеансы беларускіх кінафільмаў, дыскусійныя вечары па беларускай праблематыцы, арганізаваныя ў клубе гарадскога аддзела БГКТ, а таксама час ад часу і ў школах; напрыклад, выстаўкі, канцэрты. Прытым, першараднае значэнне будзе мець тут хуткая і рэгулярная інфармацыя ў школах наконт мерапрыемстваў, арганізаваных у беларускім клубе.

БГКТ упершыню пачынае такую дзейнасць у Беластоку.

З прамовай у час сустрэчы выступіў прадстаўнік куратарыі Беластоцкай школьнай акругі Вацлаў Філіпкоўскі.

(ся)




На Ленінскай выстаўцы ў Музеі рэвалюцыйнага руху ў Беластоку. Цаф — Сянько




■ Прэзідыум бельскага аддзела БГКТ 2-га сакавіка разгледзеў наступныя справы: конкурс на беларускую песню, падрыхтоўка да нарады старшынь гурткоў БГКТ і актыву, арганізаванне дакладаў у сувязі з 100-ай гадавінай з дня нараджэння У. І. Леніна. Прэзідыум пастанавіў склікаць нараду старшынь і актыву гурткоў на 12.IV., а правесці павятовыя эліміначыі на беларускую песню 24 мая.

■ 6-га сакавіка ў Гайнаўцы адбылася вечарына гайнаўскага актыву і харавога калектыву з удзелам намесніка старшыні Міколы Самоціка, сакратара Янкі Зенюка, кіраўніка культурна-асветнага аддзела Уладзіміра Паўлоўскага і бухгалтара ГП Галены Мелешка, а таксама з удзелам сакратара гарадскога камітэта ПАРП у Гайнаўцы тав. Паскробкам. Між іншым, абмяркоўваліся пытанні забеспячэння гайнаўскага калектыву сучасным абсталяваннем і патрэбнымі інструментамі.

■ 27 лютага сакратар праўлення аддзела ў Саколцы Анатоль Севасцьянюк і член праўлення Уладзімір Цілюлька правялі размову са старшынёй павятовага праўлення ЗМС (Саюз сацыялістычнай моладзі) Яўгенам Зелянкевічам на тэму супрацоўніцтва сакольскага гарадскога гуртка БГКТ з арганізацыяй ЗМС. Абмеркавана арганізацыя супольных мерапрыемстваў у святліцы аддзела.

■ У клубе «Рух» у Слоі на Сакольшчыне экспануецца фотавыстаўка пад загалоўкам «Ленін у Польшчы». І-га сакавіка ў гэтым клубе сакратар сакольскага аддзела БГКТ Анатоль Севасцьянюк выступіў з дакладам на тэму «Ленін і справа Польшчы». Пасля члены БГКТ і ЗМВ пастанавілі супольна падрыхтаваць беларускую п'есу і выступіць з ёю на павятовым аглядзе мастацкай самадзейнасці з беларускім рэпертуарам.

■ 8-га сакавіка, у дзень міжнароднага свята жанчын, у памяшканні ГП адбылася акадэмія. З дакладам выступіла сакратар гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку Марыся Макаль. У мастацкай частцы выступілі члены гуртка акардэаністаў - школьнікаў пад кіраўніцтвам Веслава Дзюбінскага, дэкламатары, харавы калектыў аддзела і драмгурток. Прышло на акадэмію столькі людзей, што ў вялікай зале ГП не толькі сядзець, але і стаяць было цесна.

■ У Страшаве (каля Гарадка) гурток БГКТ рыхтуе дзве п'есы. Старэйшая група моладзі ўзялася за п'есу Юркі Геніюша «Вываражыла», а малодшая група — за п'есу М. Олтухова «Як я быў доктарам». Мастацкімі кіраўнікамі з'яўляюцца Зіна Лебядзінская і Ліля Антончук.

■ 21 лютага адбылося пасяджэнне прэзідыума павятовага праўлення аддзела БГКТ у Саколцы, на якім быў зацверджаны план працы на першае паўгоддзе.

## АЛЯКСЕЮ ПЫСІНУ 50 год

23 сакавіка г.г. вядомаму беларускаму паэту Аляксею Пысіну спаўняецца 50 год.

Жадаем юбіляру новых творчых поспехаў! А вам, чытачы, прапануем прыгожы верш паэта, у якім ён выказвае сваё творчае і жыццёвае крэда.

### ◆ СЦЯГ ◆

**Тугое дрэўка на плячы,**
**Працяг жыцця ў руках.**
**Звіні, мой сцяг, і трапячы**
**Ў праменнях і вятрах.**
**Мой сцяг вышэй усіх няўдач,**
**Вышэй усіх няпраўд.**
**Я сам загорнуты ў кумач**
**Ад галавы да пят.**
**Паверкі**
**кулямі**
**былі,**
**І бачыў я тады:**
**Густою чырванню цвілі**
**На мне**
**мае**
**бінты.**
**Ты будзеш неўміручы, сцяг,**
**Бо мы цябе нясём**
**Ў сваёй крыві, ў сваіх касцях**
**Перадаём — з жыццём.**

**Аляксей Пысін**






### ЛІСТ З ТАШКЕНТА

Дарагая рэдакцыя «Нівы»! З першага сёлетняга нумара вашай газеты я даведаўся аб планах, сіле і слабасцях БГКТ. Я патрыёт сваёй радзімы, і поспехі маіх землякоў мяне цешаць, а слабасці — засмучаюць. Але найперш я хачу сказаць крыху пра сябе. Я родам з вёскі Валілы, мне 60 год. З беларускай культурай я пазнаёміўся ўпершыню ў перыяд дзейнасці Грамады. У той час і стаў я беларускім патрыётам.

У пошуках свабоды і хлеба я ў 1929 годзе выехаў у Аргентыну, дзе пражыў 29 гадоў. Аргентына — краіна эміграцыі. Першае месца займаюць італьянцы, другое іспанцы, трэцяе яўрэі, а на чацвёртым — славяне: беларусы, украінцы, палякі, чэхі, балгары, югаславы і рускія. Славян налічвалася там да 900 тысяч. У Аргентыне кожная эміграцыя мае сваю маленькую нацыю. Італьянцы і іспанцы маюць свае банкі, шпіталі, палацы культуры, выступаюць па радыё і адчуваюць сябе як дома. Асабліва згуртаваны яўрэі. У іх таксама ёсць свае банкі, шпіталі, сінагогі, дамы культуры, дамы для старых, свае могільнікі. Няма ніводнага яўрэя, каб ён не быў у іхнім кагале. Усе яны ўносяць свой уклад у кагал, у залежнасці ад дахода. У выпадку смерці, калі быў багаты, то сваякі павінны ўнесці ў кагал 25 працэнтаў ад яго спадчыны. А памрэ бедны, памогуць удаве і сіротам. Гэта сапраўдная дзяржава ў дзяржаве.

У часе беспрацоўя ў 1930—1933 гадах добра арганізаваная эміграцыя амаль не адчувала яго. А моцна бедавалі беларусы, украінцы, палякі і іншыя, у якіх не было добрай арганізацыі.

У 1935 годзе мы пачалі выходзіць на культурна асветную працу. З'явіліся ў нас першыя клубы: «Беларуская грамада», «Культура», «Белавеж», «Беласток», «Бібліятэка імя Луцкевіча». Украінцы таксама пайшлі за намі, арганізавалі свае клубы. Закіпела культурнае жыццё ў беларусаў і ўкраінцаў, арганізавалі драмгурткі, хоры, жаночыя секцыі, у якіх навучалі кройцы, шыццю, вышыванню і многім іншым карысным справам. Беларусы пачалі выдаваць сваю газету, украінцы таксама. Так з'явіліся «Новая Газета» (з увагі на брак беларусістаў выходзіла на рускай мове) і «Світло».

З увагі на брак адукаваных кадраў культурная праца не магла ў разрозненых клубах узняцца на высокі ўзровень. У 1940 годзе беларускія клубы аб'ядналіся ў беларускую федэрацыю. Праца адразу пайшла лепей. А калі Гітлер напаў на нашу радзіму, мы арганізавалі Камітэт дапамогі радзіме. Усе члены плацілі месячную складку ў размеры свайго дзённага заробку. Куплялі шэрсць, скуру. У клубах нашы спецыялісты шылі вопратку і абутак для дзяцей нашай радзімы. За час вайны наш камітэт выслаў на радзіму вопраткі і абутку на многа мільёнаў пез. Пасля вайны ў Еўропе, у нас, аргентынскіх славян, узнікла ідэя аб'яднацца ў славянскі саюз. Усе славяне левай плыні былі за аб'яднаннем. Але аргентынскія ўлады на першым з'ездзе славян арыштавалі амаль усіх дэлегатаў і закрылі ўсе клубы, якія ўваходзілі ў славянскі саюз. Мы аднак не сядзелі склаўшы рукі. З'явіліся новыя беларуска-украінскія клубы: «Максім Горкі»,

Працяг на стар. 4

# Падзеі ◇ Здарэнні ◇ Факты ◇ Каментарыі ◇ Весткі



## СВЕТ

### «ЭКСПО—70»

У мінулую нядзелю адкрылася сусветная выстаўка «Экспо—70» у горадзе Асака ў Японіі. Гэта першая сусветная выстаўка, арганізаваная на азіяцкім кантыненце, а адначасова найбольшая ў гісторыі гэтага тыпу мерапрыемстваў.

У выстаўцы, якую адкрыў імператар Японіі Хірахіта, прымае ўдзел 77 дзяржаў.

### РАДЭЗІЯ — ПА-СМІТАЎСКУ

У адпаведнасці з дэкрэтам расісцката ўрада Яна Сміта, які ў аднабаковым парадку абвясціў «незалежнасць» у лістападзе 1965 года, Паўднёвая Радэзія стала «рэспублікай».

Заканадаўчы сход распушчан. Выбары ў новы парламент назначаны на 10 красавіка. У перадвыбарчай кампаніі выступаюць тры партыі — цяпер кіруючы радэзійскі фронт, партыя цэнтра і крайне правы рэспубліканскі саюз, які выступае за адкрытае ўвядзенне ў краіне рэжыму апартайду па ўзору ПАР.

Ніводная з гэтых партый не прадстаўляе афрыканскага насельніцтва, удзел якога ў выбарах практычна поўнасцю выключан. Абвяшчэнне «рэспублікі» і маючыя адбыцца выбары нясуць 4 мільёнам карэнных жыхароў Паўднёвай Радэзіі ўзмацненне рэжыму прыгнёту і рэпрэсій, навязанага расісцкім урадам Сміта.

### «ІНТЭРКОСМАС»

У Празе адбылася нарада прадстаўнікоў навуковых устаноў Савецкага Саюза, Балгарыі, Венгрыі, ГДР і Чэхаславакіі, якія прымаюць удзел у рабоце па праграме «Інтэркосмас». Удзельнікі пасяджэння абмеркавалі папярэднія вынікі навуковых даследаванняў, ажыццёўленыя з дапамогай прыбораў, устаноўленых на штучным спадарожніку Зямлі «Інтэркосмас—1», зацвердзілі пералік новай апаратуры, якая будзе ўстаноўлена на чарговым спадарожніку «Інтэркосмас», прызначаным для даследаванняў Сонца.

### ПРЫЁМ АЛЖЫРЦАЎ

Па просьбе алжырскага боку Савецкі Саюз значна павялічвае прыём у 1970—71 гадах алжырскіх грамадзян у свае вышэйшыя навучальныя ўстановы. Замест 90 чалавек, прадугледжаных планам культурнага супрацоўніцтва, на вучобу ў СССР будзе прынята 225 алжырскіх студэнтаў.

### ФІНАНСАВЫ СКАНДАЛ

Буйны скандал узрушыў фінансавы свет Бельгіі. Дырэктар Антверпенскага банка Южэн Мэнтэн разам са сваімі саўдзельнікамі выпусціў на буйную суму серыю фальшывых аблігацый, якія былі пушчаны ў абарот. Трыбунал прыгаварыў Ю. Мэнтэна да 10 гадоў пазбаўлення волі і штрафу ў суме 10.000 бельгійскіх франкаў. Да розных тэрмінаў турэмнага зняволення прыгавораны і яго саўдзельнікі.

### СУСТРЭЧА...

...заходнегерманскага канцлера В. Брандта з прэм'ерам ГДР В. Штофам адбудзецца ў Эрфурце ў ГДР. (ак)



## БССР

### «ДЗВІНА»

На Беларусі адбыліся вялікія вайсковыя манеўры «Дзвіна». У раёне манеўраў знаходзіўся міністр абароны Саюза ССР Маршал Савецкага Саюза А. А. Грэчка.

Маршал Савецкага Саюза, двойчы Герой Савецкага Саюза І. І. Якубоўскі апублікаваў на старонках цэнтральнай беларускай газеты «Звязда» артыкул, у якім м. ін сцвярджае:

«...цяперашняя мотастралковая дывізія Савецкай Арміі пераўзыходзіць даваенную (1939 года) па танках у 16 разоў, па бронетранспарцёрах і бронемашынах — у 37 разоў, па аўтаматычнай зброі — у 13 разоў. Вага артылерыйска-мінамётнага залпа дывізіі ўзрасла з 1,7 тоны да 53 тон, без уліку магутнасці ядзернай зброі».

### ЗАБУДОВА

У Віцебску адбылася выстаўка праектаў планавай забудовы цэнтральнага і паўднёвага раёнаў горада. У агульны ансамбль сучасных дамоў віцебскія архітэктары ўпісваюць каштоўныя помнікі беларускай старажытнасці — Благавешчанскую царкву і былую гарадскую ратушу.

У новым паўднёвым раёне горада будзе жыць каля ста тысяч віцяблян.

### 25-ГОДДЗЕ

У сувязі з надыходзячым 25-годдзем Перамогі ў клубе Саюза пісьменнікаў БССР адбылася сустрэча беларускіх пісьменнікаў, журналістаў, работнікаў беларускага радыё і тэлебачання з ветэранам грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў, намеснікам міністра абароны Саюза ССР, двойчы Героем Савецкага Саюза, маршалам В. І. Чуйковым. Госця вітаў Іван Мележ, выдатны беларускі празаік.

В. І. Чуйкоў выступіў з дакладам «Аб ролі і задачах пісьменнікаў і журналістаў у прапагандзе ведаў грамадзянскай абароны сярод насельніцтва».

У час сустрэчы з прамовамі выступілі таксама член Ваеннага савета, начальнік Палітычнага ўпраўлення Беларускай Вайсковай Акругі, генерал-палкоўнік У. Грэкаў, намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Р. Кісялёў.

### УЗНАГАРОДЖАННІ

За заслугі ў развіцці беларускай літаратуры і ў сувязі з пяцідзесяцігоддзем з дня нараджэння пісьменнік Аркадзь Марціновіч узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР. Ганаровай граматай узнагароджаны Захар Магілеўчык, заслужаны дзеяч навукі Беларусі, прафесар, а таксама — Аркадзь Крук, прарэктар Мінскага медыцынскага інстытута.

### ДЗВЕСЦЕ

Дзвесце тысяч турыстаў наведала летась Брэст, які лічыцца заходнімі варотамі не толькі Беларусі, але ўсяго Савецкага Саюза.

### ПРЫРОДА ГОМЕЛЬШЧЫНЫ

У фондах Гомельскага абласнога краязнаўчага музея больш як шэсцьдзесят тысяч экспанатаў. Багата паказана прырода Гомельшчыны. (С.Я.)



## ПОЛЬШЧА

### ГАСПАДАРЧЫЯ СТЫМУЛЫ

10 сакавіка ў гмаху ЦК партыі адбылася нарада эканамічных сакратароў ваяводскіх камітэтаў партыі, на якой сакратар ЦК партыі Балеслаў Яшчук прадставіў праект змен у сістэме эканамічных стымулаў, які Палітбюро партыі вырашыла паддаць агульнай дыскусіі.

Тав. Балеслаў Яшчук паінфармаваў, што Палітбюро партыі адобрыла два дакументы адносна змен у сістэме эканамічных стымулаў. Адзін з іх акрэслівае прынцыпы змен узнагароджвання рабочай інтэлігенцыі, другі — прынцыпы павышэння заробкаў рабочых. На аснове гэтых дакументаў будзе рэгуліравацца ўзрост заробкаў у прамысловасці ў гадах наступнай 5-годкі. Мэтай гэтых змен будзе паглыбленне інтэнсіўных метадаў гаспадарання ў прамысловасці, зацікаўленне рабочых калектываў прадпрыемстваў эфектыўным выкарыстаннем сродкаў прадукцыі, узрост прадукцыйнасці працы. Змены гэтыя з'яўляюцца неабходным звяном рэалізацыі нашай агульнай стратэгіі гаспадарчага развіцця. Паводле новых прынцыпаў заробкі рабочых і рабочай інтэлігенцыі будуць непасрэдна залежаць ад фактычна выгаспадараных пасобнымі прадпрыемствамі сродкаў. На прадпрыемствах, дзе атрымліваюць належныя вынікі, звышка заробкаў мець будзе характар квартальных дадаткаў для інтэлігенцыі і месячных дадаткаў для рабочых. Калі ў рэалізацыі прадукцыйных заданняў выступяць неабаснаваныя выдаткі прадпрыемства, фонд звышак будзе зменшаны. Пасля некалькіх гадоў (напрыклад, у канцы будучай пяцігодкі) дадатак да заробкаў уключаны будзе ў асноўны заробак кожнага рабочага.

### ПРАБЛЕМЫ МІРУ

10 сакавіка адбылося ў Варшаве пленарнае пасяджэнне Агульнапольскага камітэта міру, на якім ішла гутарка аб праблемах еўрапейскай бяспекі і звязаных з гэтым заданнях руху абаронцаў міру. З дакладам выступіў старшыня сеймовай камісіі замежных спраў Юзэф Озга-Міхальскі і член сусветнай Рады Міру Станіслаў Трэпчынскі. Юзэф Озга-Міхальскі звярнуў перш за ўсё ўвагу на факт, што ў апошні перыяд адбываецца ў Еўропе эвалюцыя на карысць міру і бяспекі. Між іншым, у Федэратыўнай Рэспубліцы Германіі да голасу даходзіць пачынаюць сілы, якія больш рэалістычна ацэньваюць сучасную сітуацыю ў Еўропе. На значэнне змен, якія адбываюцца зараз у ГДР для бяспекі ўсіх еўрапейскіх краін звярнуў таксама ўвагу ў сваім выступленні Станіслаў Трэпчынскі.

### ГОСЦІ З ВЕНГРЫІ

Па запрашэнню міністра замежных спраў Стэфана Ендрыхоўскага пабываў у Польшчы з афіцыйным візітам міністр замежных спраў Венгерскай Народнай Рэспублікі Янас Петэр. Правёў ён афіцыйныя размовы з міністрам замежных спраў Стэфанам Ендрыхоўскім, нанёс візіт Старшыні Рады дзяржавы Мар'яну Спыхальскаму. (п)



## ВАЯВОДСТВА

### ВАЯВОДСКІ З'ЕЗД ЗСЛЬ

14 сакавіка г.г. адбыўся ў Беластоку IX ваяводскі з'езд Аб'яднанага людовага страніцтва. У працы з'езда прынялі ўдзел: працаўнікі Галоўнага праўлення — праф. Дызма Галай і Мечыслаў Мажэц, сакратары ваяводскага камітэта партыі ў Беластоку — В. Мікульскі і А. Младзяноўскі, старшыня Прэзідыума ВРН у Беластоку С. Жмійка.

Удзельнікі канферэнцыі разглядалі вельмі істотныя для нашага ваяводства праблемы, а выказванні дыскутантаў канцэнтраваліся на справах далейшага развіцця сельскай гаспадаркі і ролі членаў страніцтва ў прывіванні сялянам навейшых метадаў гаспадарання.

Дэлегаты з'езда прынялі праграму дзейнасці ваяводскай арганізацыі ЗСЛь і выбралі членаў ваяводскага камітэта сваёй партыі. Старшынёю ваяводскага камітэта надалей застаўся Тадэуш Гоздэк, а яго намеснікамі — Ян Чапля і Стэфан Жмійка.

### У СТУДЭНТАЎ

У беластоцкіх студэнтаў адбыліся выбары акружной рады Аб'яднання польскіх студэнтаў. Старшынёю акружной рады студэнты выбралі свайго дзеяча з Беластоцкай медыцынскай акадэміі — Веслава Якубіча.

### ПОМНІК

Вырашана пабудаваць у Голдапе помнік, які ўвекавечыць савецка-польскае салдацкае братэрства, які таксама будзе сімвалам змагання за вызваленне горада ад фашыстаў.

### СУСТРЭЧА

У сувязі са святкаваннем Міжнароднага дня жанчын намеснік старшыні Ваяводскай рады ў Беластоку прыняў дзеячак фізічнай культуры ваяводства. У сустрэчы прыняло ўдзел 11 дзеячак спорту.

### ЧЫН

Беластоцкія спартсмены, аб'яднаныя ў клубе «Зубр», абавязаліся 200 гадзін часу працаваць грамадскім чынам пры будове і парадкаванні спартыўных аб'ектаў у Дайлідах і Васількове.

### СЕСІЯ

У Дубічах Царкоўных адбылася сесія грамадскай рады, прысвечаная ацэнцы сельскагаспадарчых вынікаў у мінулым гаспадарчым годзе. У сесіі прынялі ўдзел сакратар павятовага камітэта партыі ў Гайнаўцы Р. Дваракоўскі і старшыня прэзідыума ПРН у Гайнаўцы А. Хілецкі. Тры найлепшыя гаспадары адзначаны памятнымі дыпломамі. Атрымалі іх: Д. Барана з Тапоркаў, Н. Фурс з Тафілаўцаў і П. Алесюк з Дубічаў.

### НАВАСАДАЎСКІ ГУРТОК

...налічвае аж 92 члены, у распараджэнні якіх 9 трактарных камплектаў і 4 абмалотачныя агрэгаты. Пасля гадавога падліку аказалася, што гаспадарчая дзейнасць навасадаўскага гуртка закончылася прыбыткам у звыш 130 тыс. зл., што кожны трактар працаваў у навасадаўцаў па звыш 1700 гадзін часу. Гэта вельмі многа. (вр)




NIEDZIELA, 22.III.

7.55 Program dnia. 8.00 TV Kurs Rolniczy: „Mechanizacja prac przy obsłudze inwentarza". 8.35 „Przypominamy, radzimy". 8.45 Dla młodych widzów: „Wysoka fala" — film TVP („Czterej pancerni i pies"). 10.00 Dla młodych widzów: „Wycieczka do Krakowa" (międzynarodowy cykl Interwizji TVP) „Iskra 70". 11.00 „Pociągiem przez świat" — film. 11.30 „Freski Kiprijana" („W świecie sztuki" (Kiszyniów). 12.00 Dziennik. 12.15 „Przemiany". 12.45 Międzynarodowe Zawody Narciarskie o Memoriał B. Czecha i H. Marusarzówny — II otwarty konkurs skoków na Dużej Krokwi (Zakopane). 14.15 Gdański Teatr Dziecięcy: „Na przykład — Czerwony Kapturek" — widowisko tv. 14.50 „U stóp Neapolu" — rep. film. z Włoch. 15.15 „Zlot gwiaździsty" — teleturniej. 16.10 „Piórkiem i węglem". 16.35 „Sobota Grażyny A. i Jerzego T." — film dok. TVP. 17.25 Estrada Literacka: „Kościuszko mało znany". 18.10 Felieton Literacki: „Tradycja, współczesność, ciągłość". 18.25 PKF. 18.35 „Gusła 70" czyli „Motyl, Głaz i Smierć". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Wspaniałe wakacje" — film fab. rum.-węg. 21.30 Magazyn Sportowy.

PONIEDZIAŁEK, 23.III.

14.25 i 22.20 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 17.35 „Echo stadionu". 17.50 „Spacerkiem po kinach". 18.20 „Odra — Nysa 69". — rep. film. z przebiegu manewrów czterech zaprzyjaźnionych armii. 18.45 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: P. Gojawiczyńska — „Dziewczęta z Nowolipek" — „Kwiryna" cz. II. 21.15 „Polski Film Dokumentalny". 21.45 „Tallińska Fantazja" — program rozrywkowy Estońskiej SRR. 22.00 Dziennik.

WTOREK, 24.III.

8.50 Dla szkół średnich: „O co walczyli?" („Drogi Zwycięstwa"). 9.30 „Chłopiec z kogutem" — film fab. radz. 10.55 Dla szkół: (kl. XI i III lic.) Język polski — J. Broszkiewicz: „Ta wieś Mogiła". 11.25 „Wybieramy zawód". 12.00 Hokejowe Mistrzostwa Świata. Mecz Polska — Finlandia. 14.25 i 22.40 Politechnika TV I roku. Matematyka. 15.30 Przerwa. 16.25 Program dnia. 16.30 „Oferty". 16.40 Dziennik. 16.50 Telewizyjny Ekran Młodych. 18.45 „Moda siedmiu stolic". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Wyzwolenie Wybrzeża" („Drogi zwycięstwa). 20.30 Hokejowe Mistrzostwa Świata. Mecz Czechosłowacja — Szwecja (II i III tercja). 21.55 „Dziękuję Ci ciociu Wirginio" — nowela filmowa franc. 22.20 Dziennik.

ŚRODA, 25.III.

9.00 „Komu spadek?" — film TV ang. 9.55 Dla szkół: (kl. VII) Historia — „Wiek odkryć i wynalazków". 10.25 Przerwa. 10.55 Dla szkół: kl. VII) Fizyka — „Parowanie i wrzenie cieczy". 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Chemia — „Woda". 12.25 Przerwa. 14.25 i 22.50 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 „Teleferie" — Otwarcie Teleferii Wiosna 1970. 17.30 TV Kurier Warszawski. 17.45 Magazyn ITP. 18.00 „Wyprawy" — film. 18.25 PKF. 18.35 „Wielcy znani i nieznani". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Komu spadek?" — film TV ang. 21.00 „Światowid". 21.30 „Słuchamy i patrzymy" — XV program — Romantyczność. 22.30 Dziennik.

CZWARTEK, 26.III.

8.15 „Matematyka w szkole": „Granica i ciągłość funkcji" cz. II. 8.45 Przerwa. 9.00 „Teleferie". 11.20 Przerwa. 12.45 i 13.55 Mechanizacja Rolnictwa: „Urządzenia elektryczne w gospodarstwie rolnym". 13.15 Przerwa. 14.25 i 22.20 Politechnika TV I roku. Fizyka. „Zderzenia ciał". 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla młodych widzów: „Tu Orion wzywam Andromedę". 17.55 TV Kurier Lubelski. 18.10 „Poligon". 18.40 „O muzyce mówią..." 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr Kobra: F. Durbridge — „Szal" cz. II. 21.15 „Rozmowy o książkach". 21.30 Występ Chóru Chłopięcego i Męskiego Państw. Filh. w Poznaniu pod dyr. St. Stuligrosza. 22.00 Dziennik.

PIĄTEK, 27.III.

9.00 „Teleferie". 11.25 Przerwa. 14.25 i 22.40 Politechnika TV I roku. Matematyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 17.00 Hokejowe Mistrzostwa Świata. Mecz Związek Radziecki — Czechosłowacja. W przerwie ok. 17.30 TV Kurier Warszawski. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Podróżni jak inni" — film TVP. 20.30 „Kraj". 21.10 Teatr TV: Daniel Al — „Będę mówić tylko prawdę". 22.20 Dziennik.

SOBOTA, 28.III.

9.00 „Teleferie". 11.30 Przerwa. 12.00 „Tajemnice Paryża" — film fab. franc. 14.25 TV Kurs Rolniczy: „Skąd się biorą dziury w serze" — wyd. specjalne. 15.00 Program tygodnia. 15.30 Przerwa. 16.15 Program dnia. 16.20 „Tramp". 16.40 Dziennik. 16.50 Teatr Młodego Widza: M. Szypowska — „Jutro Turniej Miast". 17.50 „Tańce i pieśni przyjaciół" — występ Państw. Zespołu Serbskiej Kultury Ludowej w Budziszynie. 18.35 „Pegaz". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.10 „Tajemnice Paryża" — film. 21.00 „Rewia Supraphonu" (Praha). 21.55 Dziennik.




PIĄTEK, 20 MARCA

8.05 Nowiny; 8.15 Dla dzieci; 9.15 Film; 10.40 Nowiny; 13.05 Program dnia; 13.10 „Cichy Don". Film fab. 3 seria; 15.05 „Panorama nowin"; 15.25 Recenzja TV; 16.05 „Czyn". W. Lenin. Kronika życia i działalności"; 17.00 Hokejowe Mistrzostwa Świata. Czechosłowacja — Finlandia. II i III tercja; 18.15 Koncert piosenki radzieckiej; 19.00 „Sztafeta nowin"; 19.30 Hokejowe Mistrzostwa Świata. ZSRR — Szwecja; 21.45 Politechnika TV.

SOBOTA, 21 MARCA

7.45 „Eureka"; 8.15 Program muzyczny; 8.45 Przegląd międzynarodowy; 9.00 „Szkatułka muzyczna"; 9.15 Przegląd tygodniowy; 9.45 Program muzyczny; 10.15 „Ziemia i ludzie"; 11.15 Reportaż TV; 11.30 TV uniwersytet ludowy; 12.15 Nowiny; 12.20 „Sztuka w naszym życiu"; 13.00 „Dynamo" (Tbilisi) — „Dynamo" (Kijów); 16.00 Nowiny; 16.05 „Kronika półwiecza". Rok 1928"; 17.05 „W świecie zwierząt"; 18.00 Panorama; 19.00 „Świat socjalizmu"; 19.30 Spektakl TV; 21.00 Koncert estradowy z Kijowa; 21.45 Nowiny.

NIEDZIELA, 22 MARCA

8.00 „Sztafeta leninowska"; 8.40 „Kiosk muzyczny"; 9.10 Olimpiada chemiczna; 10.00 Filmy animowane dla dzieci; 10.30 Poeta białoruski A. Pysin; 11.00 „Sportlandia"; 12.00 „Godzina wiejska"; 13.00 Dla żołnierzy; 13.30 „Spotkanie z Muzeum Rosyjskim". Twórczość Riepina; 14.00 Wystąpienie przewodniczącego Prezydium Rady Najwyższej Kazachskiej SRR; 14.10 Reportaż filmowy; 14.40 „Nasze wywiady"; 15.10 Koncert artystów Kazachskiej SRR; 15.50 „Klub Filmowy"; 16.50 Koncert estradowy; 17.25 Film fab.; 18.45 „Siedem dni"; 19.30 Hokejowe Mistrzostwa Świata. ZSRR — Finlandia.

**ЛЕНІН У ПОЛЬШЧЫ**

# З УСПАМІНАЎ КРУПСКАЙ

У кракаўскі перыяд — у гады перад пачаткам імперыялістычнай вайны — Уладзімір Ільіч удзяляў вельмі многа ўвагі нацыянальнаму пытанню. З ранняй маладосці прывык ён ненавідзець усялякі нацыянальны прыгнёт. Словы Маркса, што няма большага няшчасця для нацыі, як пакарыць сабе іншую нацыю, былі для яго блізкія і зразумелыя...

Спрэчкі па нацыянальнаму пытанню, што ўзніклі яшчэ ў часе II з'езда нашай партыі, разгарнуліся з асаблівай вастрынёю перад вайной, у 1913—1914 гадах, потым працягваліся ў 1916 годзе ў разгар імперыялістычнай вайны. Ільіч у гэтых спрэчках адыгрываў вядучую ролю, дакладна і цвёрда ставіў пытанні, і гэтыя спрэчкі не прайшлі бясследна...

Было б памылкай, аднак, думаць, што нацыянальнае пытанне засланяла ў кракаўскі перыяд у Ільіча такія пытанні, як сялянскае пытанне, якому ён заўсёды надаваў велізарнае значэнне. За кракаўскі перыяд Уладзімір Ільіч напісаў больш як 40 артыкулаў па сялянскаму пытанню.

У шматлікіх сваіх артыкулах, напісаных за кракаўскі перыяд, Ільіч ахоплівае цэлы рад важнейшых пытанняў, якія даюць яркі малюнак становішча сялянскай і памешчыцкай гаспадаркі, малююць аграрную праграму розных партый, раскрываюць характар урадавых мерапрыемстваў, абуджаюць увагу да цэлага раду пытанняў надзвычайнай важнасці...

У кракаўскі перыяд думкі Уладзіміра Ільіча ўжо ішлі па лініі сацыялістычнага будаўніцтва. Вядома, сказаць гэта можна толькі вельмі ўмоўна, бо няясны быў у той час



**У доме злева (вул. Фрыча Маджэўскага 49) жылі Ульянавы ад верасня 1912 г. да чэрвеня 1913 г. Тут і адбылася нарада членаў ЦК. Справа дом на вул. Ф. Маджэўскага 51. Тут жыў Ленін ад кастрычніка 1913 г. да першых дзён чэрвеня 1914 г.**

нават яшчэ шлях сацыялістычнай рэвалюцыі ў Расіі, і ўсё ж без кракаўскага перыяду паўэміграцыі, калі кіраўніцтва палітычнай барацьбой думскай фракцыі наштурхвала на ўсе пытанні гаспадарчага і культурнага жыцця ва ўсёй іх канкрэтнасці, цяжка было б у першы час пасля Кастрычніка адразу ахопліваць усе неабходныя звенні савецкага будаўніцтва. Кракаўскі перыяд быў своеасаблівай «нулявой групай» (падрыхтоўчым класам) сацыялістычнага будаўніцтва...

**Дом-музей Леніна ў Пароніна.**

У палавіне лютага 1913 года была ў Кракаве нарада членаў ЦК; прыехалі нашы дэпутаты, прыехаў Сталін. Ільіч Сталіна ведаў па Тамерфорскай канферэнцыі, па Стакгольмскаму і Лонданскаму з'ездах. На гэты раз Ільіч многа размаўляў са Сталіным па нацыянальнаму пытанню, рад быў, што сустрэў чалавека, які цікавіцца сур'ёзна гэтым пытаннем, разбіраецца ў ім...

На лета мы, Зіноўевы і Багоцкія са сваім славутым сабакам Жулікам перабраліся ў Паронін, за 7 кіламетраў ад Закапанэ. Закапанэ вельмі людное было і дарагое. Паронін — больш просты, больш танны... Месца было высокае — 700 метраў, перадгор'е Татраў...

Мы ўзбіраліся на пласкагор'е, якое пачыналася ад нашай дачы, і глядзелі на беласнежныя вяршыні Татраў. Прыгожыя яны... Хадзіць па гарах вельмі любіў Ільіч...

На 9-е жніўня была назначана нарада членаў Цэнтральнага Камітэта. «Праўда» была закрыта. Пачала выходзіць «Рабочая праўда», але амаль кожны нумар арыштоўваўся. Узнімалася стачачная хваля, баставалі ў Піцеры, Рызе, Нікалаеве, у Баку...

Ішла падрыхтоўка партыйнай канферэнцыі, так званай «летняй нарады». Яна адбылася ў Пароніне 22 верасня — 1 кастрычніка. Прыехалі на яе ўсе дэпутаты, акрамя Самойлава...

Выршана было паставіць пытанне аб скліканні партыйнага з'езда. З часоў V, Лонданскага, з'езда мінула ўжо 6 гадоў, вельмі многае з таго часу змянілася...

Хоць даўно ўжо ўсё пахла вайной, але калі вайна была аб'яўлена, гэта неяк ашаламіла ўсіх...

7 жніўня (1914) да нас на дачу прыйшоў паронінскі жандарскі вахмістр з панятым — мясцовым селянінам з ружжом рабіць вобыск... Сказаў, што на Уладзіміра Ільіча ёсць данос і ён павінен быў бы яго арыштаваць, але таму што заўтра раніцай усёроўна прыйдзецца везці яго ў Новы Тарг (бліжэйшае мястэчка, дзе былі ваенныя ўлады), то няхай лепш Уладзімір Ільіч прыйдзе заўтра сам да ранішняга шасцігадзіннага поезда. Ясна было — пагражае арышт, а ў ваенны час, у першыя дні вайны, лёгка маглі мімаходам укакошыць...

Разам з Ганецкім, пасля яго прыезду з Новага Тарга, напісалі мы ў Вену пісьмо члену Міжнароднага бюро, аўстрыйскаму дэпутату сацыял-дэмакрату Віктару Адлеру. У Новым Таргу я атрымала спатканне з Ільічом. Нас пакінулі з ім удваіх, але Ільіч мала гаварыў — была яшчэ поўная няяснасць становішча... Мне давалі спатканне кожны дзень... Ільіч расказваў аб сваіх турэмных сужыцелях. Сядзела шмат мясцовых сялян — хто за тое, што пашпарт пратэрмінаваны, хто за тое, што падатак не ўнёс... Ільіч успомніў сваю шушанскую юрыдычную практыку сярод сялян, якіх вызваляў з усялякіх цяжкіх сітуацый, і наладзіў у турме своеасаблівую юрыдычную кансультацыю, пісаў заявы і т.п. Яго сужыцелі па турме называлі Ільіча «бычы хлоп», што азначае «моцны мужык».

Нарэшце націск з боку венскага дэпутата Віктара Адлера і львоўскага дэпутата Дзіаманда, якія паручыліся за Уладзіміра Ільіча, падзейнічаў, і 19 жніўня Уладзіміра Ільіча выпусцілі з турмы...

У Кракаве ўдалося даволі хутка атрымаць права выехаць за граніцу — у нейтральную краіну — Швейцарыю...




У апошні час пытанні беларускай лексікі ўсё больш **нуртуюць** моваведаў.

Гэтае пытанне з'яўляецца вельмі істотным і для нас, пішучых па-беларуску тут, у Беластоку.

Трэба адразу сказаць, што нашыя паэты, пісьменнікі і журналісты (асабліва апошнія) знаходзяцца ў спецыфічным, я б сказала, нават нялёгкім становішчы.

Ясна, што ў нашай працы нельга пазбегнуць паланізмаў (маю на ўвазе тут назвы афіцыйных устаноў, некаторых мерапрыемстваў і інш.). Стараемся, каб было ў нашай мове ўсё менш лацінізмаў, якімі так насычана польская мова.

Ёсць аднак словы, без якіх наша беларуская мова ніяк не можа абыйсціся. Калі б мы пачалі абмяжоўваць сваю мову нормамі беларускіх граматык і слоўнікаў, мы няхочучы зрабілі б яе беднай, а **падчас** аж незразумелай для нашага чытача.

А пішам жа для людзей! Для людзей, многім з якіх «Ніва» — як родная сястра, як крывінка, як пупавіна, што спалучае дзіця з лонам маткі.

Напісаць аб гэтым аднак прымусілі мяне не артыкулы вучоных лінгвістаў.

Некалькі дзён таму назад нехта далікатна пастукаў у дзверы рэдакцыйнага пакою. На парозе паказаўся вясковы дзядзька ў добрым, доўгім хажуху. З выгляду інтэлігентны. Такія людзі наведваюць нас часта. Відаць было аднак, што гэты чалавек не ехаў спецыяльна ў рэдакцыю; можна было здагадацца, што дзядзька прыехаў па нейкія **справункі, зрэшты,** пад пахай у яго тырчаў вялікі скрутак драцяной сеткі, якую купіў, відаць, каб вясной зрабіць агароджу. Быў аднак рашучы.

— Мне да журналіста «Нівы», — сказаў цвёрда ён.

— Да якога? — спыталася я.

— Усё роўна, абы з «Нівы».

— Слухаю вас.

— Вы калісьці, — сказаў дзядзька талкова, — падавалі ў газеце рэцэпт, як вылечыцца ад экземы. Паводле рэцэпту, трэба было намяшаць дзёгцю, жаўткоў ад яечак і ўсяго іншага. Ну, самі ведаеце, тое ў хаце ёсць, тое ў аптэцы, ды вось бяда, аднаго леку ні ў якой аптэцы дастаць не магу, леку «вяршкі».

— А гэта не лек, — кажу. — Вяршкі — гэта салодкая смятана.

—А-а-а, **смятанка?!** — гаворыць ён.

Трэба было ўбачыць, як заіскрыліся радасцю вочы дзядзькі:

— Во, дык гэтага ж у кожнай хаце **не забракне!** А дзёгцю ў аптэцы прыдбаю, вось і вылечуся ад экземы.

А я ў гэты момант падумала: «Ці не датычыць гэта многіх і многіх з тых, што пішуць па-беларуску? Ці не варта б і ім вылечыцца ад страшнай экземы, а менавіта, ад страху перад слоўнікамі і граматыкамі?» Дзядзька ж прыйшоў у рэдакцыю толькі таму, што беручы за ўзор перш за ўсё мову мінскіх газет, мы механічна перанеслі гэтае слова на наш грунт. Усё было б інакш, каб мы не накідалі літаратурнае — «вяршкі», а проста напісалі тутэйшае — **«смятанка»**. І дзядзька з вёскі **не мусіў** бы **фатыгавацца** ў горад, ды шукаць па аптэках з замежнымі лекамі гэтага «цудоўнага леку».

У сваім артыкуле я з поўным намерам ужыла і падкрэсліла некаторыя словы. Словы гэтыя патрэбныя, характэрныя і прыгожыя, словы, без якіх цяжка абыйсціся ў нашай штодзённай працы, а якія рэдка сустрэнеш у друку. Такіх слоў ёсць шмат, і не буду пералічваць іх. Заняло б гэта **замнога** месца, ды і ці пералічыш усе?..

Цвёрда ведаю аднак, што гэтыя словы карысныя і патрэбныя не толькі мове «ніваўскай». Зрэшты, ужываюць падобныя словы (якія дарэчы многімі слоўнікамі наогул не ўпамінаюцца, або лічацца ўстарэлымі), некаторыя лепшыя беларускія пісьменнікі.

Так гаварыў і гаворыць наш народ, і няма патрэбы занадта **пахопна** адкідаць многія патрэбныя словы, як устарэлыя.

Трэба нам больш рашуча ўводзіць многія словы, якіх і са свечкай не знойдзеш у слоўніках.

**Ада Чэчуга**




**Увагу чытачоў, якія захочуць узяць у рукі сакавіцкі нумар беластоцкага часопіса «Кантрасты», звяртаем перш за ўсё на артыкул Ежы Шумскага «У гэтай працы мая радасць». Артыкул расказвае пра Надзею Крупскую. Гэтая жанчына на ўсё жыццё спалучыла свой лёс з Уладзімірам Леніным. Была яго жонкай і выдатным таварышам па барацьбе. Менавіта артыкул Ежы Шумскага прыбліжае нам яе постаць, як афярнай рэвалюцыянеркі, навуковага даследчыка ў галіне педагогікі, арганізатара асветы ў маладой савецкай рэспубліцы і як звычайнага, скромнага чалавека.**

**Апрача гэтага варта прачытаць адзначаныя на літаратурным конкурсе апавяданні Яна Дзюбы і Веслава Яніцкага; цікава пра жаночае войска, пра батальён імя Эміліі Плятэр расказвае Рэната Санеўская, а пра татараў з-пад Саколкі і Крынак піша Ежы Вісneўскі. Гэты мусульманскі астравок у нашым ваяводстве ўсё яшчэ выклікае зацікаўленне даследчыкаў. На гэты раз аўтар артыкула супастаўляе гістарычныя факты з легендамі.** **(вр)**

# ПЯЦЬ МІНУТ НА РЭПЕТЫЦЫІ „ЛЯВОНІХІ"

Беларуская эстрада «Лявоніха» ў разгары работы. Рыхтуе новую праграму. Новыя песні, новыя рытмы, новыя інструменты і, здаецца, будуць новыя вялікія поспехі ў гледачоў. Пайшоў на адпачынак стары гармонік. Увайшлі, свецячы новым бляскам, эстрадныя арганы, перкусія і басавая гітара, два мікрафоны з узмацнячам. Усё гудзе, парывае, падбадзёрвае! На сцэне многа руху і каларыту. Беларуская народная песня, старая-прастарая «Лявоніха» адрадзілася, памаладзела і пайшла ў жвавы танец.

Мастацкі кіраўнік «Лявоніхі» Мечыслаў Шыманскі нервуецца: «Каб хоць задаволіць густы публікі» і з новай энергіяй зрываецца: «Прашу, яшчэ раз ад пачатку, усе спяваюць!»

Прэм'ера новай праграмы «Лявоніхі» прадбачваецца на красавік. Фабрыкі і розныя арганізацыі ўжо шлюць свае запрашэнні, каб «Лявоніха» прыехала і выступіла: на фабрыцы прыладаў і ухвытаў, Сяржана, у Чаромусе і ў Гайнаўцы.

Беларуская «Лявоніха» прыедзе разам з вясной. (вл)




«Пушкін», «Бялінскі», «Астроўскі», «Маякоўскі» і іншыя. Зноў з'явіліся на свет дзве газеты на рускай і ўкраінскай мовах і журнал «Родина». Беларусы арганізавалі «Беларускі Ачаг» узаемадапамогі, які затым стаўся цэнтрам усёй нашай эміграцыі. Было ў ім звыш 12 тысяч членаў, не ўлічваючы членаў 6 філіялаў, раскінутых па ўсёй Аргентыне. Членаў Беларускага Ачага ў цэнтры горада абслужвала 44 тэрапеўты, 29 спецыялістаў, 14 зубных лекараў, два інстытуты па аналізах. Усе члены мелі права на бясплатны візіт лекара, а за лякарства плацілі 50 працэнтаў.

Уся гэта вялікая праца ляжала на плячах актывістаў. Клубы рабілі гадавыя планы. План залежаў ад ліку членаў і быў такі: столькі-та завербаваць чытачоў нашых газет і новых членаў, столькі-то даць балаў-канцэртаў і пікнікаў. Вы павінны ўявіць сабе, што мы там не жылі вёскамі і гарадамі, як вы на Беласточчыне. Нам даводзілася траціць шмат часу, каб завербаваць аднаго чытача або члена. Мне, напрыклад, даводзілася два разы ў тыдзень ездзіць у клуб на рэпетыцыю хора, раз у тыдзень на сход актыву і раз у тыдзень слухаць і чытаць палітычную літаратуру ў блізкім кругу людзей. Да таго трэба было разносіць газеты і дзяжурыць у камісіях на бал-канцэртах. Нашы газеты і журналы маглі існаваць толькі на сумленні актывістаў. На іх я штомесячна ахвяроўваў свой дзённы заробак, а потым купляў іх за нармальную цану.

Нашы клубы абзаваліся сваімі ўласнымі памяшканнямі. Напрыклад, клуб Бялінскага меў двухпавярховы будынак з дзвюма заламі (зімовай і летняй) для кіно і танцаў. На другім паверсе размяшчалася адміністрацыя клуба, бібліятэка і інш. У клубе «Максіма Горкага» была вялікая зацэментаваная пляцоўка для танцаў і кіно. У клубе «Імя Астроўскага» таксама было абшырнае часовае памяшканне.

Прыйшоў 1955 год. Наша эміграцыя пачала масава вяртацца на радзіму. Нашы клубы абяднелі членамі, але і цяпер там некаторыя клубы існуюць і выдаюць сваю газету «Родной Голос». Я разумею, як цяжка актывістам — «старым», але нягледзячы на ўсё, яны помняць, што яны беларусы, і што ў іх ёсць вялікая радзіма.

Я вярнуўся з Аргентыны ў 1958 годзе. Уладзіўся жыць у Ташкенце. Тут жаніўся і працую па сваёй спецыяльнасці на мэблевай фабрыцы. Жывем у дастатках, але роднага краю не магу забыць. Мне ў 1968 годзе ўдалося з жонкай пабываць у родных Валілах і ў суседніх вёсках. Але, на жаль, наш візіт быў вельмі кароткі, усяго 10 дзён. У Валілах у свайго школьнага сябра Юльяна Дзярманскага я і пазнаёміўся з вашай газетай. Будзем жывы і здаровы, дык у недалёкай будучыні пазнаёмлюся і з беларусамі з БГКТ. А пакуль што буду цешыцца навінамі з вашай газеты.

Я ганаруся Гайнаўкай, хоць там у мяне няма нікога з знаёмых. Я шлю сваё прывітанне і жадаю ім новых поспехаў у іх культурна-асветнай працы. Некалькі разоў даводзілася чытаць у «Ніве» пра Гарадок. Жадаю маім блізкім землякам з Гарадка добрых поспехаў у пашырэнні гурткоў БГКТ у суседніх вёсках. Жадаю таксама ГП БГКТ поспехаў у высакароднай справе развіцця роднай культуры. Я хацеў бы перапісвацца з таварышамі з БГКТ. А пакуль застаюся з сяброўскім павважаннем.

**Грыцук Іосіф Аляксандравіч**
Ташкент



Я шчэ ў недалёкім мінулым у жыцці нашага сялянства панаваў закаранелы перажытак, што чалавека няхітрага з натуры простага душою, непісьменнага, навакольнае асяроддзе зневажала і дурнем лічыла. А здаралася так найчасцей з людзьмі, якія былі пакрыўджаны лёсам, з дзіцячых год у горы жылі, або былі бездапаможнымі сіротамі. Кажуць «як з яйца — так да канца» — усё жыццё пражыве паніжаны. Але і ў такіх выпадках былі выключэнні. Бывала так, што добрыя людзі памогуць у час і пару ажаніцца і гэтакаму, хаця незараднаму, прастаку пападзецца добрая жонка. А тады ўсё змяняецца. Ён становіцца добрым гаспадаром і селянінам. Але найчасцей бывала так, што гэтакія прастакі заставаліся да скону бабылямі і пражывалі сваё жыццё ці ў сваякоў, ці ў чужынцаў за дармовых работнікаў, «папіхайлаў». Гэтак здаралася і было калісьці.




Цяпер жа, дзякуючы абавязковаму абучэнню да 8 класаў, добрай выхаваўчай працы настаўнікаў і апецы над сіротамі, справа выглядае зусім інакш. І ў гэтым, між іншым, праяўляецца відавочны для ўсіх скок культуры на вёсках. Але нягледзячы на гэта, на нашых вёсках на вачах ўсяго грамадства яшчэ здараецца, што дзеецца крыўда людзям. Гэтак якраз выйшла ў нашай ваколіцы ў мінулым годзе.

Гень з дзіцячых год, зведзены пры сапацыі на ступень «дурня», сталы прытулак зімоваю парою меў у свайго дабрадушнага пляменніка, а ў летні сезон з году ў год наймаўся пасвіць каровы ў вёсцы, ці ў гаспадара на хутары.

І вось гаспадар, у якога прапасвіў усё лета, аказаўся чалавекам хцівым і подлым. Каб не заплаціць Геню ані гроша, змовіўся са сваёй жонкай. У дзень разліку, як ніколі, на стол паставіў смажаныя яйкі і гарэлку. Разам утраіх выпілі гарэлку. Пасля гаспадар нібыта пайшоў да суседа пазычыць грошай, а гаспадыня, крыху пачакаўшы, кажа Геню: — Хадзі, Гень, паможаш мне карове падаслаць. Калі зайшлі ў стадолу, Гень хуценька залез на старану і пачаў скідаць салому. Следам за ім яшчаркай улезла туды гаспадыня і скапіла Геня за шыю. У гэты час з саломы вынырнуў гаспадар і пачаў біць Геня і крычаць, што той заляцаецца да яго жонкі. Збіў гаспадар нізавошта Геня і нічога за работу не заплаціў.

Усе ведалі, што гаспадар спецыяльна кінуўся на такую хітрасць, каб багацець на чужой крыўдзе. Але ніхто не заступіўся за Геню. Прыкра, што яшчэ да сённяшняга дня пануе на вёсцы перакананне, што калі чалавек багаты, дык шчаслівы. І некаторыя даходзяць да багацця рознымі спосабамі, не саромячыся несумленных, несалідных учынкаў. Проста агідна, што ёсць яшчэ ў нас такія людзі.

**Міхась Красоўскі**
Малынка

# ШАЎРАЛЕТ „КАНАДА"

Дваццаць год існуе ў Беластоку гандлёвае прадпрыемства абароту жывёлаю, са скарочанай назвай ПОЗГ. Зараз гэта багатая фірма з не абы-якім значэннем для нашай беластоцкай эканомікі.

Дваццаць год таму назад ПОЗГ пачынаў сваё існаванне ад куплі з дэмабілю старога шаўралета «Канада» — і ад абаротаў вартасцю ў пяцьдзесят мільёнаў злотых у год. На першым месцы быў гандаль коньмі, у іх ліку славутымі сакольскімі коньмі. Гандаль масавы, на вываз у традыцыйны галандскі рынак збыту. Быдла не выклікала асаблівага зацікаўлення. Цэлы апарат працаўнікоў ПОЗГ быў падобны на гандляроў коньмі. Так было тады.

З часам ПОЗГ заўважыў, што яго роля таксама і на ўнутраным, перш за ўсё, беластоцкім рынку. У 1955 годзе фірма прадала 1.600 коней і каля дзвюх тысяч штук быдла. Быдла знаходзіла набыўцаў на ўнутраным рынку найбольш. Аднак, поўная перамена фірмы з гандлярскай на гандлёвую адбылася ўсяго некалькі год таму назад.

Галоўную сваю ролю ўбачыла ў дапамозе гаспадаркам у развіцці пародзістай жывёлагадоўлі ды свінагадоўлі і авечкагадоўлі. Неабходна вывесці з гаспадарчага абароту своевольны гандаль хатняй жывёлаю, які не толькі маласалідны, ашуканскі часта, але моцна перашкаджаючы перад усім у наладжанні добрай гадоўлі на Беласточчыне. У мінулым годзе прадана ПГР-ам і гаспадарам каля пятнаццаці тысяч пародзістага быдла, мала менш свіней, далей — авечак, каля сямі тысяч штук. Да 1975 года плануецца моцна павялічыць ужо дасягнутыя паказчылі сваёй дзейнасці на ніве развіцця нашай сельскай гаспадаркі.

Адначасова дзейнасць ПОЗГ амаль дакладна залежная ад агульнага ўзроўню сельскай гаспадаркі ў паасобных ваколіцах, ад вытворчасці імі корму. Добрая жывёлагадоўля і наогул гадоўля павінна мець і добрыя ўмовы. Пародзістая карова дасць многа малака, мора малака, толькі тады, калі атрымае яна корм адпаведны і адпаведную яго колькасць. Бельска-гайнаўскія ці сакольскія гаспадаркі няздольныя яшчэ да такой гадоўлі. Трэба пачакаць, калі гектар будзе даваць удвая больш, чым зараз; трэба пачакаць, пакуль хлявы будуць толькі з назвы, а ў сапраўднасці культурнымі памяшканнямі для жывёлы. На тое патрэбен час, патрэбна культура самога гаспадара, яго ўмельства карыстацца здабыткамі сельскагаспадарчай навукі.

Чым ПОЗГ можа дапамагчы нашым гаспадарам? Можа дапамагчы кантрактаваннем і вынікаючымі з таго карысцямі ад кантрактацыі. Чырвонапародзістая карова мала малочная, але затое надта трывалая на суровыя абставіны неразвітай гаспадаркі, усё яшчэ найбольш карысная нашаму гаспадару.

Ужо існуюць рэальныя магчымасці пашырэння свінагадоўлі, у якой асаблівае значэнне мае бульба, славутая беларуская бульба. Кантрактацыя свіней. Аб кантрактацыі свіней ПОЗГ гаварыў «Ніве» найбольш: вартая папулярызацыі, бо рэальная яна ў нас.

Сваё дваццацігоддзе ПОЗГ адзначае сотнямі мільёнаў злотых абаротаў. (ся)

Школьніцтва за мяжой

# ПЕРАБУДОВА ШКОЛЫ

Нядаўна ўлады БССР прынялі пастанову аб пераводзе агульнаадукацыйных школ на сістэматычнае выкладанне навук з чацвёртага года навучання (дагэтуль было як і ў нас з пятага класа). Ужо сёлета на новую сістэму пяройдуць звыш 20,5 тысяч вучняў чацвёртых класаў пачатковых школ. Асветныя ўлады мусяць забяспечыць арганізаваны перавод чатырохкласнікаў у васьмігадовыя і сярэднія школы.

Камітэты партыі і асветныя ўлады будуць праводзіць шырокую растлумачальную работу сярод бацькоў пра пераход на трохгадовае пачатковае навучанне і мэтазгоднасць гэтага важнага мерапрыемства. Адначасова яны абавязалі адпаведныя органы, каб працаўладкавалі ўсіх настаўнікаў, якія выслабаняюцца ў сувязі з намячаемай рэарганізацыяй.

У пастанове гаворыцца, што мясцовыя Саветы і Міністэрства сельскай гаспадаркі разам з органамі народнай асветы павінны паклапаціцца пра арганізацыю бясплатнага праезду ў школу і назад да месца жыхарства навучэнцаў агульнаадукацыйных школ, што жывуць у сельскай мясцовасці. Для тэтай мэты будуць выкарыстоўвацца маршрутныя аўтобусы, транспарт калгасаў, саўгасаў і іншых прадпрыемстваў, арганізацый, прыгарадныя і мясцовыя паязды. Калі будзе неабходна, будуць устаноўлены дадатковыя прыпынкі для маршрутных аўтобусаў, або абсталёўвацца месцы збору вучняў.

Пільная ўвага будзе звернута на павелічэнне колькасці інтэрнатаў пры сельскіх агульнаадукацыйных школах за кошт выслабанення школьных будынкаў і будаўніцтва новых інтэрнатаў. У пастанове вызначана таксама заданне Міністэрству гандлю і кааператыўнаму саюзу аб арганізацыі на працягу бліжэйшых пяці гадоў у гарадскіх і сельскіх школах больш як дзвюх тысяч сталовых і буфетаў. (ак)



# У БЕЛЬСКІХ ЭЛЬЗЭТЭСАХ

Пабываўшы ў Бельску, вырашыў я наведаць павятовую раду ЛьЗС. У бюро вітае мяне многагадовы дзеяч эльзэтэсаў **Сцяпан Сільвеструк.** Ён жа з'яўляецца і старшынёй павятовай рады ЛьЗС у Бельску.

Сядаем за стол, распытваю аб гуртках, аб дзейнасці вясковага спорту на Бельшчыне. Не ўдаецца мне разгарнуць размову, бо штораз да Сцяпана хтосьці прыходзіць. Зразумела, уступаю месца, бо хлопцы папрыязджалі з далёкіх вёсак, а сёлетняя зіма не была занадта літасцівай.

Маю ўвагу звяртае факт, што ў гэты дзень неяк найбольш было хлопцаў з Пілік, Мокрага, Дубяжына. Я вырашыў даведацца аб прычыне іх візітаў.

— Як бачыш, — гаворыць Сцяпан, — прыходзяць да мяне з рознымі справамі: адны просяць лыжы, канькі, а іншыя хочуць пагаварыць аб сваім гуртку ЛьЗС. Але эльзэтэсаўцы з спамянутых вёсак у найбліжэйшую нядзелю арганізуюць кулік у лесе...

«Дык вось у чым справа», — падумаў я.

Арганізацыя кулікаў гарадскімі прадпрыемствамі і арганізацыямі мяне бліжэй ніколі не цікавіла. Мерапрыемства, якое арганізавала эльзэтэсаўская моладзь з ГРН Пілікі, зацікавіла самабытнасцю і прадуманым выхаваўчым планам. («Ніва» перадавала фотарэпартаж з гэтага куліка ў адным з папярэдніх нумароў).

Расказам Сільвеструка аб праграме куліка я пачаў нават захапляцца. І тады Сцяпан пачаў дыктаваць мне «вытрымкі», як назваў, з грамаднай спартыўнай і турыстычнай (а я б назваў і палітычна-выхаваўчай) дзейнасці бельскіх эльзэтэсаў.

— Добра ведаем, — працягваў дзеяч эльзэтэсаў, — што мы выдатнай спартыўнай дружыны не зробім, бо і няма чым і як, ды і задач такіх перад сабой не ставім. Для нас важна масавасць спорту і турыстыкі на вёсцы. Але нельга забываць, што з многіх нашых эльзэтэсаўскіх спартсменаў выраслі чэмпіёны высокага класа.

Намечаны план працы рэалізуе ў Бельскім павеце **70 гурткоў ЛьЗС,** у якіх працуе **2350 членаў,** а ў тым ліку **800 дзяўчат.** Але гэта не да канца адлюстроўвае працу бельскіх эльзэтэсаў, бо, напрыклад, у спартыўных мерапрыемствах у мінулым годзе прымала ўдзел больш **15 тысяч** чалавек. А гэта абазначае, што пад уплывам ЛьЗС знаходзіцца значная колькасць моладзі, якая (пакуль што) не з'яўляецца членамі ЛьЗС. Да спартыўных дасягненняў павятовай рады ЛьЗС у Бельску неабходна залічыць існаванне **14 футбольных дружын,** якія змагаліся ў класе «Б», а таксама **63 валейбольныя дружыны,** якія рабілі розыгрыш на кубак «Дзенніка людовага».

Як ужо было сказана вышэй, спартыўныя гульні заўсёды звязаны з палітычнымі падзеямі, арганізованымі мерапрыемствамі. Для прыкладу напомню хаця б мерапрыемства, звязанае з уручэннем 50-тысячнай легітымацыі ЗМВ і 5-тысячнай партыйнай легітымацыі члену ЗМВ (у ваяводстве). Мерапрыемства было арганізавана ў Бранску, а прыняло тут удзел 6 валейбольных дружын, 2 футбольныя дружыны і 300 чалавек прыняло ўдзел у спа-



На кулік. Фота Цаф — Сянько

 

# БУДУЕМ САМІ

Тыя гаспадары, што хочуць пабудаваць сабе новыя, мураваныя будынкі часта наракаюць на цяжкасці з купляю патрэбных будаўнічых матэрыялаў — асабліва цэглы. Месцамі нялёгка купіць і пустакі. Проста, патрэбы перавысілі магчымасці дзяржаўнай прамысловасці і гэтых матэрыялаў замала на рынку збыту.

У сувязі з такой сітуацыяй, а будзе яна трываць яшчэ доўга, ПЗГС, ГС і сельскагаспадарчыя гурткі звярнулі ўвагу на магчымасці вырабу патрэбных матэрыялаў на месцы, у вёсцы, на панадворках. Усе ПЗГС-ы, многія ГС-ы, а нават і сельскагаспадарчыя гурткі маюць патрэбныя для вырабу такіх матэрыялаў машыны і формы. Могуць іх звычайна пазычаць гаспадарам, якія бяруцца за будаванне гаспадарскіх, а нават і жыллёвых будынкаў. Аплаты за пазычанне невысокія.

Набліжаецца вясна, значыць, набліжаецца сезон будаўнічых работ. Таму трэба ўжо зараз паклапаціцца аб тым, каб дамовіцца з ГС-ам ці ПЗГС-ам аб пазычанні машын і формаў. Прытым варта ведаць, што органы мясцовай улады — грамадскія рады — абавязаны гаспадарам усяляк дапамагаць арганізацыйна ў гэтых справах. Ніводзін старшыня грамадскай рады не можа сказаць, што ён аб нічым такім не ведае і не чуў. Калі так скажа, гэта будзе сведчыць толькі аб тым, што не хоча дапамагчы.

Варта таксама ведаць і аб тым, што ўлады абавязалі будаўнічыя фірмы да таго, каб дапамагалі яны парадаю ды спецыялістычнай апекаю тым, хто ўзяўся за выраб будаўнічых матэрыялаў. Гэтыя фірмы абавязаны таксама даследаваць якасць і прыдатнасць вырабляемых матэрыялаў. Гэта надта істотнае, бо гэта гарантуе тое, што праца не пойдзе надарэмна з прычыны слабой арыентацыі гаспадара ў вырабе будаўнічых матэрыялаў.

Вясна ідзе, ідзе час будавання. (ся)

# ЗАКОНЧЫЎСЯ БЕЛАСТОЦКІ ФЕСТЫВАЛЬ

II беластоцкі фестываль «Музыка і паэзія» закончыўся. Прайшоў з вялікім поспехам. Набітыя былі канцэртныя залы. І колькі чырвоных кветак было ў гэтыя зімовыя, марозныя і снежныя дні!

З'ява, якую варта падкрэсліць, — гэта моладзь на канцэртах. Яна перавважала, яна слухала і ўспрымала, яна разумела.

Беластоцкі фестываль не належыць да лёгкіх. І не арыентуецца ён на невыбрэдныя густы і нізкія інстынкты. Як музыка беластоцкага фестывалю, так і паэзія, усё ў найвышэйшым гатунку і найлепшым тоне. Гэтае музычна-паэтычнае падарожжа ішло праз стагоддзі, стылі і краіны. Збірала па дарозе найлепшыя плёны пакаленняў і крапатліва складала з іх прыгожае і вартаснае культурнае мерапрыемства, якім і з'яўляецца беластоцкі фестываль «Музыка і паэзія». Вымагаў ён слухача ўражлівага і культурната. І ўсё больш такога знаходзіў. У II беластоцкім фестывалі якраз гэты факт быў вельмі аптымістычны.

А Беластоцкі дзяржаўны сімфанічны аркестр — творца і галоўны выканаўца агульнапольскага фестываля «Музыка і паэзія»? Мне найпрыемней было слухаць якраз наш аркестр. Ці то польскі Карловіч, ці нямецкі Бетховен, рускі Пракоф'еў ці зноў польскі Шапен — усе яны знайшлі ў Беластоцкім сімфанічным аркестры свайго дасканалага выканаўцу. Гэта добры аркестр.



Фота Цаф — Сянько

Плеяда выканаўцаў паэзіі, якая прайшла ў днях фестываля праз беластоцкія сцэны: З. Брэгулова, З. Мразоўская, Я. Свідэрскі, Э. Фэтынг, В. Семён...

Сучаснасць і класіка прагучэлі ў фестывалі згодна з формамі старадаўнімі. Чароўную старадаўнасць прадставілі два музычныя калектывы з Катавіц і Варшавы: «Класіцы Сілезіяні» і «І Музіцы Кантанці». Выконвалі яны творы рэнесансу і бароку з XVI—XVIII стагоддзяў. Выступілі ў барокавых сценах былога палаца Браніцкіх, а цяпер Медыцынскай акадэміі ў Беластоку. Як цудоўна гарманізавалі тут старая мелодыя са старым стылем будаўніцтва! А любіцелі музыкі ішлі і пхаліся ўсімі праходамі...

Праз год зноў лютаўскімі марознымі вечарамі будуць ісці ў Беластоку новыя восем вечароў, ужо III фестываля «Музыка і паэзія» — вялікага агульнапольскага культурнага мерапрыемства.

На здымку: адзін з вечароў II фестываля быў прысвечаны сучаснаму польскаму фальклору. З уласнай праграмай выступіў фальклорны калектыў з вёскі Лысэ ў Кольненскім павеце.

Вера Леўчук

борніцтвах па лёгкай атлетыцы. Не горшым прыкладам можа быць фестын у Малінніках і Аўгустове, які быў арганізаваны супольна з ЗМВ і БГКТ.

Зрэшты Сільвеструк задумваецца над пэўнай рэарганізацыяй. Заключаецца яна ў тым, што хоча ён перакананаць эльзэтэсаўцаў, напрыклад, з раёна Кольніца-Бранск, дзе развіўся веласіпедны спорт, што не толькі гэты спорт прыгожы і патрэбны, а з раёна Пілікі-Орля, што ў спорце лічыцца не толькі футбол, дзе гэты від спорту стаўся абсалютна пануючым.

У гэтых дасягненнях немалую ролю адыграў і той факт, што неяк у 1969 годзе пераламалася доўгае маўчанне на тэму ЛьЗС-аў у прэзідыуме ПРН, які прызначыў на эльзэтэсаўскую дзейнасць 110 тыс. зл. Можна меркаваць, што старшыня павятовай рады ў Бельску і ў гэтым годзе акажа не менш зацікаўлення развіццём вясковага спорту і турыстыкі і павядзе палітыку сваёй адміністрацыі ў тым напрамку, каб шырэй зацікавіць справамі вясковай моладзі ГРН-ы.

А. К.



ДА 130-Й ГАДАВІНЫ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ

# ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ

Францішак Багушэвіч з'яўляецца першым пасля Паўлюка Багрыма народным песняром, паэтычны талент якога непадзельна належаў працоўным людзям. Аўтар «Дудкі беларускай» (Кракаў. 1891; другая кніга вершаў Багушэвіча «Смык беларускі» выйшла ў Познані ў 1894 г.) перакананаўча давёў, што пісьменнік толькі тады можа ўзняцца да вяршынь сапраўднай мастацкай творчасці, калі ён арганічна зліты з народам і яго жыццём. Эпоха, у якую жыў Багушэвіч, была цяжкая і складаная. Гэта былі часы ломкі гнілых прыгонніцкіх устояў і, параўнаўча, шпаркага развіцця капіталізму на Беларусі.

Паэзія Багушэвіча — глыбока народная па сацыяльнай сутнасці, паэтычнай манеры пісьма і мастацкіх сродках адлюстравання тыповых з'яў тагачаснага жыцця працоўных людзей беларускай вёскі. Багушэвічаў верш, глыбокі па думцы і просты па форме, вызначаецца, перш за ўсё, натуральнай фальклорнай прастатой, яснасцю і гранічнай дакладнасцю народнай вобразнай мовы, якая па сваёй унутранай сутнасці з'яўлялася рэзкай процілегласцю мове дваранскіх эстэтаў ад літаратуры. Дастаткова перачытаць такія праграмныя вершы паэта, як «Мая дудка», «Бог не роўна дзеле», «Кепска будзе», «Дурны мужык, як варона», «Гора», «Калыханка», «У судзе», «Думка», «Мая хатка», «Панская ласка» і шмат іншых, каб наглядна ў гэтым пераканацца. Скажам заадно, што вершы гэтыя ўваходзяць у залаты фонд беларускай класічнай паэзіі XIX стагоддзя і кладуць пачатак крытычнага рэалізму, як творчага метаду літаратуры. Час ішоў, і ім суджана было стаць класічным узорам для наступных пакаленняў пісьменнікаў.

Прыгадаем хораша напісаны праграмны Багушэвічаў верш, назву якому дала зусім процілеглая па сэнсу прыказка «Дурны мужык, як варона». Паэтычная ідэя гэтага, можна сказаць, паэтычнага маніфеста сялянскага дэмакрата заключаецца ў тым, што свядомасць забітага катаржнай працай на дармаедаў працоўнага чалавека адстае ад рэальнага стану праўды жыцця, і ён не можа ўзняцца да ўсведамлення таго, што з'яўляецца творцам усіх багаццяў на зямлі, якія гвалтам прысвоілі сабе яго прыгнятальнікі. Як жа тут не галасіць і не «біць у звона», што «дурны мужык, як варона»?

«Глядзі! Горы паразрыты,
А чыгункай свет абвіты:
Усё з мужыцкай цяжкай
працы,
Усе едуць у палацы;
У мужыка ж няма білета!
Ці ж не дурань мужык гэта?»

Лёгка пераканацца, што так удала карыстацца народнай лексікай і фразеалогіяй, настойліва ўводзячы яе ў літаратурны ўжытак, мог толькі паэт, непарыўна звязаны з народам.

Да Ф. Багушэвіча ніхто так смела не ўводзіў у беларускую літаратуру вобразную мову народных песень, казак, легенд, прымавак і прыказак. Роўных сабе ён не меў, і яго наватарская роля ў даным выпадку падобная да ролі Тараса Шаўчэнкі ва ўкраінскай літаратуры.

Францішак Багушэвіч паўстае перад намі і як праніклівы, задушэўны лірык, песні якога былі сапраўдным наватарствам для тагачаснай беларускай лірычнай паэзіі. Яго цыкл «Песень» са «Смыка беларускага» вытрымаў самае суровае выпрабаванне часам. Песні гэтыя не страцілі сваёй эмацыянальнай свежасці і той празрыста яснай паэтычнай абаяльнасці, якія робяць іх сапраўднымі творамі славеснага мастацтва. Прыгадаем хоць бы пачатак паэтычнай імпрэсіі «Удава».

«Шуміць з горкі ручаёчак,
Брызгі раскідае, —
Плача ўдава сярод ночак,
Вочкі выцірае.
Ой, маркотная, ліхая
Доля сірат-дзетак!
Але горшая ўдавая,
Як тых малалетак».

Помнік Ф. Багушэвіча, устаноўлены на радзіме паэта ў вёсцы Жупраны, Ашмянскага раёна, Гродзенскай вобласці ў 1958 г. Аўтар б'юста беларускі скульптар Заір Азгур. Здымак помніка атрымалі мы ад вучняў Жупранскай сярэдняй школы імя Ф. Багушэвіча.

Нельга не адзначыць яшчэ, з нагоды светлай памяці паэта, яго самаахвярную барацьбу за грамадзянскія правы беларускай мовы, афіцыйна не прызнанай тады, як мовы літаратурнай і органа душы цэлай нацыі. Абарона паэтам роднай мовы была ў тую эпоху абаронай народа і яго нацыянальнай культуры. Родную мову прыходзілася абараняць не толькі ад царскіх ганіцеляў свабоды і нацыянальнай культуры, але і ад «дамарослых» нігілістаў, якія цураліся свайго народа, яго багатай духоўнай спадчыны і непаўторныя скарбы вуснай народнай паэзіі абразліва называлі «дзеравеншчынай». Невыпадкова Багушэвіч заклікаў «не пакідаць роднае мовы, каб не ўмерлі! Пазнаюць людзей, — казаў ён, — ці па адзежы, якую хто носе, а то ж гаворка, язык і ёсць адзежа душы...»

Францішак Багушэвіч унёс вялікі творчы ўклад у беларускую рэалістычную літаратуру мінулага стагоддзя. Ён шмат зрабіў для мастацкага развіцця беларускага народа і станаўлення яго грамадзянскай, нацыянальнай самасвядомасці.

Сцяпан Майхровіч

# РАМЕСНІКАЎ НЕ ЗАМНОГА

Нядаўна расказвалі мне, як уласнік матацыкла з Бахуроў чакаў месяцамі, пакуль знойдзецца ў Беластоку механік, які захоча прыехаць да яго і адрамантаваць папсаваны матор. Везці матацыкл у Беласток — вялікі клопат, бадай з шэсцьдзесят кіламетраў запацелай дарогі. Нідзе ў ваколіцы, адлегласцю ў дзесяткі кіламетраў, няма ніводнай рамеснай механічнай майстэрні. Урэшце жаданы механік з'явіўся, бы выбавіцель з нябёсаў, перагледзеў матацыкл, і тое, што папсаванае ў ім, забраў з сабою, да свайго беластоцкага варштата, каб адрамантаваць. Не першы і не апошні выпадак такі, які лішні раз сведчыць аб пустыні без тэхнічных паслуг на нашых абшарах.

Рамесныя варштаты, майстэрні могуць быць розныя, бо і патрэбы людзей розныя. Фабрыка «Імшар» за Новай Воляй намагаецца арганізоўваць сталярныя, слёсарскія майстэрні. Ці ёй удаецца гэта, пакажа час. Патрэбны майстэрні вырабу розных будаўнічых матэрыялаў, малыя фабрычкі пустакоў, чарапіцы, мо нат' і цэглы. Тым, якія бяруцца за майстэрскі фах, улады ідуць на руку, звальняюць на два гады ад падаткаў. Калі ж у далейшыя гады абароты не перавышаюць пяцідзесяці тысяч у год, майстэрні надалей застаюцца свабоднымі ад падаткаў. Кожны кемлівы гаспадар, практычна беручы, можа сабе зарабіць добрых пару тысяч беспадатковых да гаспадаркі. Зарабіць ці то кавальствам, ці то вырабам пустакоў, чарапіцы, ці то нават простым слёсарствам. (ся)



 

## КУТОК ГАСПАДЫНІ
## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### ПАШТЭТ

Чаго, як чаго, але патраў з цяляціны не павінна забракнуць на велікодным стале. Прапаную паштэт з цяляціны — вельмі смачны і доўга не псуецца. Калі вы будзеце яго трымаць у халодным месцы, дык можна смела ўжываць яго на канапкі цэлы тыдзень пасля свят.

0,5 кг мяккай цяляціны, 0,25 кг бочку (свінай грудзінкі) і 100 г саланіны заліваем вадой і варым на слабым агні, дадаючы некалькі сушоных грыбкоў і цыбулін, вялікую моркву, пятрушку і сельдэрэй, а таксама пару лаўровых лісткоў і некалькі гарошын перцу. Пасаліць, крыху падварыўшы. Калі мяса будзе зусім мяккае, зняць з агню і астудзіць.

У той час, калі мяса варыцца, падрыхтоўваем пячонку (вантробу). Для паштэту мы можам узяць цялячую, свіную, або курыную пячонку, важна, каб яе было прыблізна 0,30 кг. Кроім яе і тушым мінут 10, падліўшы крыху вады, або вывару з мяса. Пасля гэтага трэба пячонку астудзіць.

І белую булачку, або споры кавалак дэлікатэсовага батона размочваем у палове шклянкі вывару.

Цяпер трэба зваранае мяса, тушаную пячонку і размачаную булку прапусціць праз машынку. Прапаную прапусціць праз машынку таксама грыбы і дададзеныя да мяса цыбулю і карэнні. Гэта вельмі паправіць смак паштэту.

Да атрыманай масы дадаем соль, перац, 3 сырыя яечкі і старанна расціраем усё гэта, каб маса атрымалася пульхнай.

Форму (найлепш прадаўгаватую), у якой мы збіраемся пячы паштэт, змазваем маслам і напаўняем паштэтам, які трэба пячы ў духоўцы каля гадзіны.

З формы паштэт выкладваем, калі ён ужо крыху астыне.

Калі мы ўжо пры свяце, паштэце ды пры цяляціне, дык прапаную зрабіць яшчэ на ваш святочны стол **раладу з цяляціны.**

Для гэтай мэты патрэбны нам вялікі кавалак цялячай грудзінкі (адзін цэлы перадок), а ўласна кажучы, тая частка, што знаходзіцца над рэбрамі, без галёнкі. Мяса ў месцы храстковых зростаў робрышкаў трэба далікатна надрэзаць і пераламаць, а пасля паставіць грудзінку вертыкальна, абапіраючы аб стол, і, асцярожна націскаючы мяса паміж рэбрамі, сцягнуць яго з касцей.

Цяпер кладзем на стале пасоленую і крыху пасыпаную перцам цяляціну, раскладваем на ёй роўным пластом паштэт (падрыхтаваны да таго моманту, калі мы збіраемся ўсадзіць яго ў духоўку), а на паштэт у адзін рад укладваем разрэзаныя напалову крутыя яечкі. Усё гэта заварочваем у цяляціну, каб атрымалася ралада, звязваем моцнай ніткай і кладзем на змазаную тлушчам бляшку.

Пячэм у духоўцы каля 2-х гадзін. Прыемнага апетыту!

**Гаспадыня**




Карэспандэнцыя з Мінска

## ЛЕНІНСКІ ПЛАН ІНДУСТРЫЯЛІЗАЦЫІ Ў ДЗЕЯННІ

**Ажыццяўленне ленінскага плана сацыялістычнай індустрыялізацыі займае асаблівае месца ў раду гістарычных здзяйсненняў савецкага народу. Менавіта ажыццяўленне гэтага плана з'явілася адной з рашаючых умоваў ператварэння аграрнай і адсталай краіны ў перадавую сацыялістычную дзяржаву. Усё гэта добра можна бачыць на прыкладзе Беларускай ССР. І аб гэтым расказвае Выстаўка дасягненняў народнай гаспадаркі БССР. На здымку агульны выгляд выстаўкі.**

## ДЗЕ ГУСТА, А ДЗЕ ПУСТА

Насельніцтва на зямным шары размеркавана вельмі нераўнамерна. Амаль тры чвэрці планеты займаюць акіяны. Антарктыда значна большая за Еўропу, але і там няма сталых жыхароў. Шчыльнасць насельніцтва Грэнландыі ў мільён разоў меншая, чым у Манака. На ўсім аўстралійскім кантыненце, плошча якога большая за ЗША і Японію, жыве менш людзей, чым у адным Токіо або Нью-Йорку.

Далейшы рост насельніцтва і ўзмацненне жыллёвага будаўніцтва прывялі ў радзе гарадоў да надзвычай высокага кошту зямельных участкаў для забудовы. Так, у Нью-Йорку часам выгадней купіць дзесяціпавярховы дом, знесці яго і пабудаваць на гэтым месцы пяцідзесяціпавярховы, чым купіць вольны ўчастак.

## ЛІТАРАТУРНЫЯ ГУЛЬНІ

### ЛАБІРЫНТ

Увайдзіце ў гэты лабірынт і выйдзіце з яго. Знайшоўшы правільны шлях, вы прачытаеце радкі з верша Якуба Коласа «Будзь цвёрды». На няправільным шляху вы сустрэнеце словы перасцярогі.




Як адказ прышліце прачытаныя радкі верша.

Адказы просім прысылаць на наш адрас:
Redakcja «Niwy», Białystok, ul. Wesołowskiego 1. да **16 красавіка 1970 г.**

Сярод тых, хто прышле правільныя адказы, разлясуем узнагароды.

Развязка з 10 нумара ад 8.III.1970 г.:

Заграю на дудцы,
Вытну на гармоні,
Заплачу на скрыпцы
Аб мужыцкай долі.

«Музыкант беларускі» — Э. Пашкевіч (Цётка)

За правільны адказ на лабірынт з 6 нумара «Нівы» кніжныя ўзнагароды вылясавалі: **З. Іванюк — Трашчоткі, В. Федарук — Снежкі, Я. Здрайкоўскі — Галады, Н. Герасімюк — Чэхі Арлянскія, Ф. Нікалаюк — Пілікі, А. Місюк — Яцэвічы, В. Грыцук — Волька Нурэцкая, Я. Астапчук — Семяноўка, Я. Сегень — Старакорнін, Л. Пракапюк — Кленікі, Я. Мойсік — Парцава, Р. Харкевіч — Лука, Я. Асіпюк — Койлы, Л. Кас'янюк — Вілінава, М. Баршчэўскі — Маліннікі, А. Юрчук — Баброўка, Н. Скепка — Ягаднікі.**

**Апрацаваў А. Карпюк**

## ЦІ ВЕДАЕЦЕ, ШТО...

...самая хуткая машыністка на свеце робіць 850 удараў у мінуту. Мужчыны тут уступаюць слабому полу: іх рэкорд усяго 735 удараў у мінуту.

...3.472 цагліны ўклаў за гадзіну амерыканскі муляр Дж. Рэглан.

...вышыня хадуляў, на якіх выступаў англійскі артыст Йелдынг, — 6,7 метра.

## ПЕКАР ПРЫРОДА

### СУПРАЦЬ АПЁКУ — ЛЕДЗЯНАЯ ВАДА

Лепшы сродак першай дапамогі пры параўнаўча лёгкіх апёках — халодная (яшчэ лепш — з лёдам) вада. Да такога вываду ў выніку працяглых эксперыментаў прыйшоў прафесар Граўндс з Аўстраліі. Неабходная ўмова — метад павінен прымяняцца неадкладна — не пазней чым праз адну мінуту пасля апёку.

Паддоследныя кошкі і сабакі праз 16 сек. пасля апёку на паўгадзіны апускаліся ў халодную ваду. Рэзкае ахаладжванне, відаць, перашкаджала ўтварэнню апёкаў і змяненню капілярнай пранікальнасці тканак, аказвала болепатольнае ўздзеянне, прадухіляла ўтварэнне пухіроў.



## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### У ФОРМЕ КОЛА

**Вялікі гараж на 220 аўтамабіляў (у іншым варыянце на 1000!) запраектавалі маскоўскія архітэктары. Розніца ён ад гаражоў, праектаваных у іншых сталіцах Еўропы, між іншым, асобнымі боксамі для кожнай машыны і добрым забеспячэннем ад холаду, ападкаў і г.д.**

## ЧВЭРЦЬ СТАГОДДЗЯ НАЗАД




—Вось табе і «партайгеносэ»! Сустрэліся б мы на дзянькоў сто раней... — разважліва прагаварыў Генка: ён у асноўным зразумеў сэнс тутаркі.

— Нам, Гена, грэх скардзіцца. Многа каштоўных звестак і так перадалі «Цэнтру». А калі Шыллят сапраўды паможа нам, будзе яшчэ не позна. Нават калі мы тут сустрэнем сваю армію, то наперадзе вунь колькі яшчэ ўмацаванняў... Немцы проста так іх не здадуць. Эх, дзяўчат бы нашых сюды! Аню ці Зіну...

— Дзе яны хоць цяпер? Мо «партайгеносэ» праз гэтага немца, што на пеленгатары, даведаецца, ці хоць працуюць іх рацыі? Але ж як даведаешся: ці то «джэкаўцы», ці з групы Максімава? Можа каго яшчэ сюды закінулі... — сам жа і адказаў на сваё пытанне, якое яго мучыла, Генка.

Зямлянку мы абсталявалі і працавалі ў ёй увесь наступны дзень: наносілі на карту адзнакі разведаных за ракой Дайме ўмацаванняў. Перачыталі ўсё тое, што напісалі нам Громаў і Лазавы, падсвечваючы кішэнным ліхтарыкам. Некаторыя населеныя пункты даводзілася доўга шукаць, бо напісаны яны былі недакладна.

Усё ж яны перадалі шэраг каштоўных звестак. Многае з таго, аб чым напісалі, яны самі бачылі, аб нечым распыталі ў сваіх таварышаў, з якімі адбываюць тут няволю.

— Як бы нам папасці на гэты патаемны хутар Шмаленберг? — услых разважаў я. — Што там за «шпіёнская школа», пра якую гаварыў Аляксей? Мо фашысты рыхтуюць рэзідэнцыю для засылкі ў наш тыл?

— «Языка» давай возьмем — усё раскажа... — як нешта вельмі простае, прапанаваў Генка.

Яно то і праўда, што браць «языка» было для нас не складаным. Немцы хоць і былі ўсе ўзброены, але ж яны адчувалі сябе свабодна на сваёй тэрыторыі, хадзілі без перасцярогі. Толькі раней да нас траплялі «языкі» выпадковыя. Складаней высачыць і ўзяць...

— Правільна, браток, кажаш. Возьмем адну свалату і — дапытаем...

Генка не чакаў ад мяне такой поўнай падтрымкі яго рызыкоўнай прапановы. Ён уважліва паглядаў, як бы дапытваючы, ці сур'ёзна я кажу, і ўжо сам сумеўся:

— Малавата нас...

— Як думаеш, Гена, можа паспрабаваць стварыць новую групу? Возьмем Лазавога, Громава. Ужо — чацвёра будзе. Дамо ім тыя аўтаматы, што нам з грузам скінулі. Патроны ж і гранаты яны самі зберагглі.

— Вядома, трэба так зрабіць. Толькі ж гітлераўцы могуць з астатнімі палоннымі расправіцца. Нешта трэба прыдумаць. Мо разыграць захоп іх сілай?

У назначаны час прыйшоў «партайгеносэ». «Нямецкая пунктуальнасць», — прыпомнілася мне.

— Прывітанне вам ад майго таварыша Эрнста, ад сына Ота і «мутэр» (так ён называў сваю жонку).

Мы моцна пацìснулі адзін аднаму рукі. Шчырасць гэтага чалавека канчаткова пераканала нас у яго добрых намерах памагчы нам. Ён прынёс у тэрмасе гарохавы суп, бутэрброды, каву.

— А тут, — прыклаўшы руку да грудзей, патаемна і ўрачыста прамовіў «партайгеносэ», — карта Усходняй Прусіі. Я вам яе пакіну. Толькі трэба недзе разгарнуць, каб растлумачыць вам умоўныя абазначэнні, якія мы самі нанеслі.

— Хадзем у нашу зямлянку, — прапанаваў я. І тут жа сумеўся: ці правільна раблю, што раскрываю сваё сховішча?

— Не, не трэба. Ніхто не павінен ведаць, дзе вы хаваецеся. Мала што можа здарыцца...

— Лічыце, што гэта наша запасная зямлянка. Разведчыкі так лёгка не раскрываюцца, — сказаўшы так, я падумаў, што ні Аляксей з Іванам, ні Шыллят не ведаюць, напэўна, што мы з Генкам засталіся толькі ўдваіх, нічога не ведаем пра астатніх «джэкаўцаў», што не маем сувязі з «Цэнтрам». Ці хоць здагадваюцца яны, у якім мы цяпер становішчы апынуліся? Разведчыкі так проста не раскрываюцца — гэта праўда. Не будзем раскрывацца і мы. Будзем рабіць выгляд, што ў нас усё ў парадку. Чым больш будуць верыць у нашы магчымасці, тым больш будуць нам памагаць.

Мы працìснуліся ў сваю нару, залажылі выхад і ўключылі ліхтарык. Шыллят выняў з-за пазухі ёмісты скрутак. Разгарнуць яго было нельга: мала месца, цесна.

— Я вылезу, пасцерагу, — сказаў Генка. — І прасторней будзе...

— Дзе вы ўзялі такую карту? — здзівіўся я.

І было чаму здзівіцца: гэта была карта гітлераўскага генеральнага штаба з грыфам «зусім сакрэтна».

— Тут — увесь фатэрлянд, — усміхнуўся Шыллят. — Мне даў яе, каб перадаў вам, адзін маёр вермахта. Ён — мой сусед. Нашы хаты стаяць побач. Яго нядаўна цяжка параніла ў Курляндыі. З акружэння вывезлі ў Кенігсберг. Ён настаяў на тым, каб яго на лячэнне пусцілі дадому. Гэту просьбу выканалі з ахвотай: ён зусім безнадзейны. Такія вермахту больш непатрэбныя. Маёр усё разумее. Цяпер ён праклінае нацыстаў і фюрэра. Не падумайце, што ён страціў розум. Яму таксама ўсё надакучыла. Вайна прайграна. Ён хоча, каб яна хутчэй скончылася.

— Ці мог бы ён паведаміць нам звесткі аб курляндскай групоўцы войск?

— Думаю, што ён зробіць гэта...

— Цяпер я разгарну сваю карту — яна больш падрабязная. На ёй абазна-

 

# ТРЫБУНА чытачоў

## БАЦЬКОЎСКІ СХОД

10-га лютага адбыўся бацькоўскі сход у трасцянскай школе. У пачатку сходу школьная моладзь выступіла з беларускімі і польскімі песнямі і з вершамі. Найвесялей было, калі моладзь заспявала песню аб Трасцянцы, напісаную настаўнікам Міколам Якімюком. У песні спявалася аб добрых і нядобрых справах Трасцянкі.

Потым выступіў з прамовай кіраўнік школы, які гаварыў найбольш аб васьмікласніках — неўзабаве выпускніках. Потым кіраўнік звярнуўся да бацькоў, каб памаглі звярыне і птушкам перазімаваць цяжкую зіму, а вядома, што школьнікі з Трасцянкі ўжо знялі каля 800 штук застаўленых петляў на зайцаў і курапатак. Школьная моладзь апекуецца звярамі і птушкамі, дакармляе іх і здымае петлі, заложаныя часта сваімі ж бацькамі.

**«Ярош»**
Гайнаўскі павет

## УРАЧЫСТАСЦЬ У ЧЫЖАХ

27 лютага ў Чыжах мясцовыя ўлады супольна з аддзелам БГКТ арганізавалі ўрачысты вечар, прысвечаны 100-ай гадавіне з дня нараджэння У. І. Леніна і 52-ой гадавіне Савецкай Арміі. Як ганаровы госць быў запрошаны савецкі палкоўнік Аляксандр Даўгапалаў. Разам з ім прыбылі на ўрачыстасць сакратар прапаганды павятовага камітэта ПАРП Людвіг Бартосяк, старшыня і сакратар гайнаўскага аддзела БГКТ Аляксандр Іванюк і Віктар Бура, намеснік павятовага каменданта міліцыі Сяргей Зелянкевіч, мясцовыя дзеячы і настаўнікі. Вялікая чыжоўская святліца была перапоўнена. Удзельнічала ў акадэміі амаль 500 асоб. Усе з вялікім зацікаўленнем выслухалі выступленне палкоўніка Савецкай Арміі.

**Тэкст і фота Віктар Бура**
Гайнаўка



**Старшыня ГРН у Чыжах Мікалай Брук адкрывае ўрачыстасць. Побач з ім сядзіць палкоўнік Савецкай Арміі.**

чаны кожны дом, кожная канаўка, — кажу, прадчуваючы, што можна будзе нешта нанесці на яе з таго, што паведаміць «партайгеносэ».

— Дзе тут Міншэнвальдэ? Пакажыце мне. А то я не ўмею чытаць па-руску...

— Вось яно — ваша Міншэнвальдэ, — паказваю.

Шыллят лёгка знайшоў сваю хату на карце і хутар Райчука. А вёрст за дзесяць, у вёсцы Нойвізе, паказаў яшчэ і хутар сваёй цёткі.

— Ва ўсіх гэтых трох дамах вы знойдзеце дапамогу і падтрымку, — сказаў ён. — А калі гэта будзе неабходна, то і схові́шча. У Нойвізе да цёткі я пашлю Ота. Ён туды з'ездзіць на веласіпедзе — хлопцу трэба развітацца перад адыходам на службу ў армію. Так што ўсё лагічна? — усміхнуўся ён.

— Ага, — працягваў ён, — вось Кенігсберг. А вось і Пілау — буйная ваенна-марская база.

Ён падрабязна расказаў план партакрэпасці, паказаў, дзе знаходзяцца вядомыя яму фарты вакол Кенігсберга, ахарактарызаваў іншыя марскія гавані на Балтыйскім узбярэжжы Германіі. Я ўсё старанна запісаў, адзначыў на карце.

— Ёсць у мяне сястра і ў Берліне. Яе можна выклікаць сюды і арганізаваць сустрэчу з вамі, калі адтуль патрэбны будуць якія звесткі. А праз тры дні прыйду да вас з Эрнстам ці Ота. Не пярэчыце?

— Будзем рады сустрэцца. Дамовімся аб часе пастаянных сустрэч. Думаю, што зрабіць гэта трэба зараз. На ўсякі выпадак. Мы адшукалі недалёка ад сваёй зямлянкі пянёк, пад якім дамовіліся пакідаць пісьмы. **(Працяг будзе)**

## КОНКУРС НА САВЕЦКУЮ ПЕСНЮ



У Гайнаўцы на павятовых элімінацыях IX агульнапольскага конкурсу на савецкую песню здабыў першае месца дуэт з аддзела БГКТ. Гэта Надзя Рамнюк і Аліна Фірсюк.

**Тэкст і фота Віктар Бура**
Гайнаўка

## В'ЕТНАМСКІМ ШКОЛЬНІКАМ

Школьнікі з вёскі Барысаўка (Гайнаўскі павет) наладзілі перапіску з в'етнамскім пасольствам у Варшаве. Яны салідарызуюцца з в'етнамскім народам, які ў няроўным баю змагаецца з амерыканскімі агрэсарамі. Школьнікі Барысаўкі сабралі грошы на лекі для дзяцей В'етнама і пераслалі ў в'етнамскае пасольства. Адтуль атрымалі шчырую падзяку за падтрымку і за падарунак. Школьнікі Барысаўкі звяртаюцца да ўсіх дзяцей, каб і яны арганізавалі зборку грошай для пакрыўджаных в'етнамскіх дзяцей.

**В. Б.**
Барысаўка




**Дарагое Сэрцайка!**

Многія хлопцы і дзяўчаты выкарысталі твае парады, вось і я надумаўся параіцца з табой. Мне пятнаццаць год. Я скончыў пачатковую школу і цяпер вучуся ў сярэдняй. Вучуся вельмі добра, але і ў мяне ёсць клопаты і то вялікія. На твары маю я многа вяснушак і не ведаю, як іх пазбыцца. Яны мне вельмі перашкаджаюць у жыцці. З-за іх не магу я пасябраваць з дзяўчатамі, бо каторая з іх захоча пасябраваць з рыжым (так мяне называюць). Хлопцы таксама не лепшыя. Добрыя толькі тады, калі трэба ім вытлумачыць урокі.

Парай, як пазбыцца гэтага клопату.

**Янэк з Гайнаўшчыны**

**Дарагі Янка!** Калі ўжо будзеш дарослым чалавекам, падумаеш: каб толькі большых клопатаў не было. Толькі цяпер, маючы 15 год, здаецца табе, што мець вяснушкі на твары, — гэта вялікае няшчасце. Няпраўда. Пэўна, калі іх за многа, дык прыгажосці не прыдаюць. А рудыя валасы — цяпер вельмі модныя. Пэўна, што маляваныя рудыя валасы прыгажэйшыя, чым натуральныя, але няма ніякага клопату, бо цяпер жа ж можна мець валасы якія толькі захочаш. Ад вяснушак ёсць крэмы, а да валасоў — шампоны і фарбы. Аднак найлепшае лякарства — гэта загарэць як найлепш на сонцы. Тады і вяснушак не будзе відаць, і валасы набяруць прыгожага залацістага колеру. Таму мне здаецца, што найлепш будзе, калі ты застанешся такім, якім ёсць. Бо ў іншым выпадку можаш мець яшчэ больш непрыемнасцей, чым цяпер. А шчырае сяброўства нічога не мае супольнага з прыгажосцю. Мо не таму ты не можаш з нікім пасябраваць, мо якраз ты ў гэтым вінаваты і замнога табе здаецца, што з цябе смяюцца. Бо і чаго ж тут смяяцца. Падумай. Ты добра вучышся, старайся таксама весці сябе добра, будзь дабразычлівы і ветлівы, а, напэўна, знойдзеш сяброў.

**Сэрцайка**

## ДЗЕЙНАСЦЬ ГУРТКОЎ ЗМВ

Гурток ЗМВ пры СПР у Тапалянах у гонар 100-ай гадавіны з дня нараджэння Ул. І. Леніна абавязаўся пасадзіць 2 гектары лесу, дрэўцы пры дарозе на адрэзку 2 кіламетраў, выкапаць роў даўжынёю да 500 метраў пры дарозе Тапаляны—Патока.

З нагоды 25-ай гадавіны перамогі над фашызмам моладзь з тапалянскай школы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі правядзе акадэмію, а таксама прыме ўдзел пры ўпарадкаванні салдацкіх магіл. Дагэтуль тапалянскія ЗМВ-оўцы прымалі ўдзел у конкурсе ведаў аб Ул. Леніне, падрыхтавалі ў сябе ў школе вечарыну. Апрача гэтага ачысцілі ад снегу 3-кіламетровы адрэзак дарогі Тапаляны-Тыльвіца і дакормліваюць аслабленых ад зімовай галадоўкі звяроў.

✲

Актыўна працуюць члены школьнага гуртка ЗМВ у Лясным тэхнікуме ў Белавежы. Гурток ЗМВ налічвае 194 члены. Яны арганізуюць дыскусіі на актуальныя палітычныя тэмы, дапамагаюць слабейшым вучням у вучобе, робяць актуальныя насценгазеткі, часта арганізуюць папулярна-навуковыя сесіі.

Нядаўна адбыўся справаздачна-выбарчы сход гуртка, на якім выбралі новага старшыню гуртка Андрэя Леановіча.

✲

Гурток ЗМВ у Палічнай арганізуе забавы, «Згадуй-згадулі». Моладзь ЗМВ-оўская ачышчала ад снегу дарогі з вёскі ў напрамку чыгункі, развучвае яна песні і скетчы, робіць дэкарацыі да святліцы, арганізуе кулікі. У гуртку ЗМВ актыўна працуюць настаўніцы Валя Юрчук і А. Амельянюк.

✲

Моладзь з Белавежы-Падалян адрамантавала памяшканне, дзе раней знаходзіўся клуб ГС-у, і, такім чынам, мае сваю святліцу. У апошні час ЗМВ-оўцы дэкаруюць яе, арганізуюць вечарыны. У гуртку актыўна працуюць: Юры Вянцкоўскі і Міхал Ліцкевіч.

✲

Моладзь з Ласінкі арганізавала мастацкі гурток, які падрыхтоўваецца да агляду мастацкіх калектываў. Найбольш увагі працы ЗМВ-оўскага гуртка ўдзяляе Міхась Паскробка.

**Янка Цялушэцкі**

✲

Саюз вясковай моладзі арганізаваў нядаўна кулік Белавежская пушча — Навасады. Удзел прынялі гурткі з навакольных вёсак. Журы ў Навасадах прызнала першае месца ўкуліку ЗМВ у Ліпінах. У Навасадах адбылася таксама артыстычная частка і забава.

**Марыся Петручук**
Ліпіны

## ДЗЯЎЧЫНА З ВЫСПЫ КІПР НА СУСТРЭЧЫ Ў АРЭШКАВЕ

Кіраўнік Этнаграфічнага музея ў Белавежы Уладзімір Гацута падчас вучобы ажаніўся са студэнткай з Кіпру, якая вучыцца ў Варшаве.

Гайнаўскі аддзел БГКТ супольна з грамадскім асяродкам культуры ў Арэшкаве арганізавалі спатканне з гэтай кіпрыйкай — Андрауляй Хараламбаус. Яна расказала аб творчасці і жыццёвым шляху вядомага грэчаскага кампазітара Мікіса Тэадаракіса, які здабыў славу ў асноўным дзякуючы песням і танцам, напісаным ім на народных грэчаскіх матывах, пры выкарыстанні грэчаскага народнага інструмента боузоукі. Выступленне яе перапляталася песнямі Тэадаракіса з пласцінак у выкананні спявачкі сусветнай славы Марыі Фарандокры. Прысутныя праслухалі песні з цыклаў «Эпітафія», «Эпіфанія», «Матгаўсэн» і шмат іншых. Словы да гэтых песень напісалі грэчаскія паэты І. Сэфэрыс — лаўрэат узнагароды Нобля, К. Варналіс, І. Рытзас і іншыя.

Пасля даклада пані Андрауля паказала два грэчаскія танцы «Зорбу» і «Хасабіко». На заканчэнне грэчанка высветліла каляровы турыстычны фільм аб Кіпры пад загалоўкам «Выспа Афрадыты». Пасля была цікавая дыскусія. У сустрэчы прыняло ўдзел 250 чалавек.

**Б. В.**
Арэшкава

## КОНКУРС ВЕДАЎ АБ ЛЕНІНЕ

12 лютага ў Семяноўцы адбыўся конкурс ведаў аб Леніне, пасля якога адбылася акадэмія, прысвечаная 100-ай гадавіне з дня нараджэння правадыра рэвалюцыі. Арганізатарамі конкурсу і акадэміі былі: грамадская бібліятэка, ГРН, гурток БГКТ і аддзел БГКТ у Гайнаўцы. Пасля ўрачыстасці кінаперасоўкай ГП дэманстраваліся два савецкія фільмы.

**Тэкст і фота Віктар Бура**
Гайнаўка



**Удзельнікі конкурсу ведаў аб Леніне.**

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
„W. I. Lenin" (radz.), 24—25; „Kamo znany osobiście" (radz.), 26—27; „Kamo niebezpieczna misja" (radz.), 28—29.

**Дубіны**
„Winetou" (jugosł), I i II s. 28—29.

**Нараўка**
„Alfa, Romeo i Julia" (węgierski); „Zjazd rodzinny" (radz.), 25—29.

**Нарва**
„Czerwone i złote" (polski); „Wyzwanie dla Robin Hooda" (ang.), 25—29.

**Чыжы**
„Człowiek z karabinem" (radz.); „Opowieść znad Donu" (radz.), 25—29.

**Дубічы Царкоўныя**
„Twój współczesny" (rodz.); „Nauczyciel z przedmieścia" (ang.), 25—29.

**Арэшкава.**
„Dziennik młodego małżeństwa" (fiński), „Zbrodnia przy ul. Dantego" (radz.), 28—29.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Mój stary" (polski); „Brat dr Homera" (węgierski), 25—29.

**Орля**
„273 dni poniżej Zera" (polski); „Rzeczpospolita babska" (polski), 25—29.

**Райск**
„Zawsze w niedzielę" (polski); „Czworokąt śmierci" (czeski), 25—29.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Міхалова**
„BS 38-15" (NRD), 24—25; „Królewski błąd" (czeski), 26—27; „Grunt to zdrowie" (franc.), 28—29.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„17 równoleżnik" (franc.). 24—25; „7 rok miłości" (NRD), 26—27; „Późne popołudnie" (polski), 28—29.

**Янаў**
„Nowy" (polski): „Hugo i Józefina" (szwedzki), 25—29.

**Шудзялава**
„Pomyłka szpiega" (radz.); „Wyzwanie dla Robin Hooda" (ang.), 25—29.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Pałace w płomieniach" (rumuński), 24—25; „Słuchajcie bicia dzwonów" (jugosł.), 26—27; „Wniebowstąpienie" (polski), 28—29.

**Мельнік**
„Anioł błogosławionej śmierci" (czeski); „Topkapi" (USA), 25—29.

**Мілейчыцы**
„Pociągi pod specjalnym nadzorem" (czeski), 24—25; „Topkapi" (USA), 26—27; „W królestwie ducha gór" (jugosł.), 28—29.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Operacja Belgrad" (jugosł.); „Wyspa na lądzie" (franc.), 25—29.

**Новы двор**
„Krzyżacy" (polski), 28—29.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto I Oddziału Rejonowego PUPiK „Ruch" NBP Nr 150-6-161 w Białymstoku. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23 Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4.70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. W-3 Nakład 7 303



 

